# ЗЬМЕСТ

Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!

# ПЛУГ

Месячная навукова-популярная сельска-гаспадарчая часопісь.

II год выданьня Чэрвень 1926 г. № 6



## Прымайце ўдзел у першым Усебеларускім конкурсе на лепшую сельскую гаспадарку.

**Конкурс выявіць посьпехі і дасягненьні нашай сельскай гаспадаркі. Прэміяў будзе ня менш 11, кожная ад 200 р. і да 50 р. Прэміраванай можа быць тая гаспадарка, якая не карыстаецца наёмнай працай і мае пэўныя дасягненьні.**

„Няма дрэннай зямлі, а ёсьць дрэнны гаспадар"—кажа народнае прыслоўе. Дрэнную зямлю можна ўгноіць, палепшыць і зрабіць яе ўраджайнай, а на добрага гаспадара трэба доўга вучыцца і вельмі старанна. Бываюць выпадкі, што добрая гаспадарка бацькі ў сына заняладае і, наадварот, можна назіраць, калі зусім слабенькая, можна сказаць, бядняцкая гаспадарка, дзякуючы стараннасьці гаспадара, яго сьвядомасьці і самадзейнасьці, хутка расьце і становіцца культурнай.

Справа ў тым, што кожная сельская гаспадарка прымушана працаваць у сваіх асабістых умовах прыроды, рынку, пры сваіх пэўных запатрабаваньнях сям'і і часта пры нястачы рабочай сілы і матар'яльных сродкаў на куплю машын, лепшага насеньня, угнаеньня і г. д.

Але зямельная і с.-г. палітыка Рабоча-Сялянскай улады ў шмат якіх кірунках дапамагае хутчэйшаму росту сельскай гаспадаркі.

Зараз мы маем ужо даволі шмат аграномаў, якія абслугоўваюць патрэбы сялянскіх гаспадарак; у вёсцы яны становяцца пажаданымі гасьцьмі і сваімі людзьмі. Шмат гаспадарак цяпер пераходзяць на шматпольле; сяляне пашыраюць пасеў траў, караньплодаў, карыстаюцца зялёным угнаеньнем, торфам і г. д. Дзяржава робіць закупку для сялян рознага насеньня, угнаеньняў, машын, сродкаў барацьбы са шкоднікамі, праводзіць землеўпарадкаваньне, дапамагае, а то і цалкам на свае сродкі праводзіць асушку балот, дае крэдыт і г. д.

Пры ўсіх гэтых умовах ёсьць і павінен быць няўхільны рост сельскай гаспадаркі, як і паасобных гаспадарак.

Вось, *каб такія гаспадаркі выявіць больш яскрава, каб іх прыклады зрабіць вядомымі для больш шырокага раёну,* з 20 травеня гэтага году *Наркамземам абвяшчаецца I Усебеларускі конкурс на лепшую гаспадарку.*

Што-ж будзе вымагацца ад той гаспадаркі, якая можа быць прэміравана? Перш, гаспадарка павінна быць працоўнай, без наёмнай рабочай сілы. Яна павінна шмат чым адрозьнівацца ад гаспадарак, якія яе абкружаюць. Напрыклад, яна можа *мець лепшую тэхніку* выпаўненьня шмат якіх работ, *можа карыстацца машынамі на коопэрацыйных умовах*, мець якія-небудзь спэцыяльныя галіны, *як культурны сад, садовую школу, гарод, пчэльнік, добрую жывёлагадоўчую ці малочную гаспадарку. У палявой гаспадарцы* яна таксама павінна мець добрыя

прыклады. Тут напэўна гаспадарка будзе *мець шматпольле, пасеў траў, караньплодаў, заняты папар, даходныя расьліны* і г. д. Пры чым усё гэта павінна падыходзіць да свайго раёну, рынку і г. д.

Вядомая рэч, што гаспадарка на прэмію павінна рабіць добры сельска-гаспадарчы ўплыў і на суседнія гаспадаркі, яна павінна быць больш культурнай. *Яе гаспадар напэўна будзе сьвядомым селянінам, які па газэце, часопісі ці кніжцы вучыцца лепшым прыёмам гаспадараваньня*, а таксама мо' працуе ў с.-г. гуртку, коопэрацыі і г. д.

*Прэміраванай можа быць і зусім маламоцная гаспадарка*, якая толькі некалькі год, як пачала працу і пэўных дасягненьняў яшчэ ня мае, але яна так умела і дасканала будуецца, што вельмі хутка пачне даваць добрыя вынікі. *Сам-жа гаспадар яе цікавіцца сваёй працай, шмат над чым вядзе спробы, шукае новага і лепшага*, працуе ў коопэрацыі, быў прэміраваны раней на выстаўцы, працуе сярод сялян, першы памоцнік аграному ў практычнай працы і г. д.

*Прэміраванай можа быць празпалосная гаспадарка, гаспадарка пасёлку, хутар, комуна, арцель*, апрача савецкіх гаспадарак.

Усе гаспадаркі на прэмію павінны быць апісаны да 1 жніўня гэтага году. Раздача прэмій і ўшанаваньне гаспадаркі будзе праведзена ў дзень „Сьвята Ураджаю“, не пазьней 15 кастрычніка.*)

Усяго будзе прэміравана ня менш 11 гаспадарак ад 200 руб. да 50 руб. на кожную. Усе апісаньні падаюцца ў акруговыя конкурсныя камісіі пры Акрза.

Апісаньне можа зрабіць аграном, сам гаспадар, настаўнік, селькор і г. д. Адначасова з гэтым конкурсам Наркамземам абвешчаны Усебеларускі конкурс і на лепшы с.-г. гурток (для гурткоў вызначана 10 прэмій ад 50 і да 200 руб.). Прэміі атрымаюць тыя гурткі, якія найбольш шырока разгарнулі сваю працу ў разьвіцьці сельскай гаспадаркі сваіх сяброў ці раёну.

Усе лепшыя гаспадаркі і с.-г. гурткі павінны прымаць удзел у конкурсе. Конкурс пакажа нашы дасягненьні ў сельскай гаспадарцы. *Культурная і даходная гаспадарка—наш лёзунг.*

*Падлікі ўсякага гаспадарчага посьпеху*—пролетарскае сьвята**).

**С. Тупяневіч.**

---

*) За тры лепшыя апісаньні гаспадарак і за тры апісаньні гурткоў будуць выданы таксама прэміі (25, 50 і 75 руб.).

**) Рэдакцыя „Плуга“ просіць гаспадароў, якія зацікавяцца конкурсам, адзін паасобнік свайго апісаньня прыслаць хутчэй у рэдакцыю часопісі. (Рэд.).




## Вёскі, дзе заведзена шматпольле.

(*З падарожжа*).

Аб'ехаў 7 раёнаў Барысаўшчыны і Аршаншчыны. Быў у шмат якіх вёсках. Усюды агрономічны ўплыў, усюды ідзе перабудова старой вёскі. Тут я даю толькі некалькі малюнкаў.

*Вось вёска Грабло* (Барысаўскі раён). Яна ў 20 вярст. ад раёну і чугункі; зьмясьцілася сярод лесу. У вёсцы сустрэў селянін-упаўнаважаны па правядзеньню шматпольля; ён-жа член сельсавету. Селянін падрабязна знаёміць з гісторыяй заснаваньня шматпольля. Ён кажа, што *ў даваенны час вёска адчувала бязкорміцу*. З 1923 г. да іх стаў прыяжджаць агроном т. Гарасімаў і тлумачыць аб тым, як завесьці шматпольле. Сяляне доўга не згаджаліся, але ўрэшце згадзіліся, напісалі пратакол, абралі севазварот і *агроном разьбіў нашы палоскі на 9 зьмен*. Зрабіў усё так умела, што не парушыў нават і межаў.

*Вясною таго-ж году далі нам насеньня канюшыны*. Апрача гэтага *агроном параіў узяць лубін* і засеяць яго ў адным папарным полі на ўгнаеньне, бо скаціны ў вёсцы было мала і гною не хапала. І тут некалькі сялян адгаварвалі браць насеньне лубіну, але сяляне не паслухалі: *лубін пасеялі*.

З таго часу, прайшло толькі тры гады, а зьмены ў вёсцы сталіся значныя. Севазварот ужо замацаваны: *дзьве зьмены заняты канюшынай, дзьве—жытам, дзьве—ярыной, адна—бульбай і дзьве зьмены—ў папары*.

*Што-ж даў сялянам севазварот?* Вельмі шмат. Перш, корму стала даволі; нават сёлета гаспадары ня ведалі бязкорміцы, а некаторыя і прадавалі корм на старану. Лубін на ўгнаеньне дазваляе ўгнойваць лепш другое папарнае поле.

„Наогул-жа цяпер у нас ня ведае голаду і скаціна"—кажуць сяляне.

Хутка сталі зьбірацца яшчэ сяляне. Усе разам пашлі аглядаць поле. Кожны гаспадар хацеў завесьці на сваю палоску і паказаць жыта па лубіну. І праўда, жыта было густое і зялёнае.

У вёсцы Грэбло ёсьць *тры пружыноўкі агульнага карыстаньня, сартоўка „трыумф", зьбіраюцца-ж купіць сяляне завадзкога быка*. Газэты выпісваюць і чытаюць. Прыходзяць яны два разы ў тыдзень.

Апрача шматпольля некаторыя гаспадары в. Грабло паказвалі пляны для пабудовы хлявоў, другія ўжо хлявы асьвятлілі, пабудавалі кармушкі. Пагаманіў з сялянамі і еду далей.

*Крупскі раён*. Агропункту няма. Агроном з двумя памоцнікамі пасяліўся ў сялянскай хаце пасёлку Лебедзева разам з гаспадаром. Памяшканьне агрономаў адгароджана толькі дошкамі. Усяго 3 маленькіх пакойчыкі: *адзін цёмны займаюць два памоцнікі* агронома; другі такі-ж пакой з адным вакном заняў раённы агроном з сям'ёю, а ў трэцім—прыладзіўся агрономічны музэй.

Ня лепшае жыцьцё агрономаў і ў *Барысаўскім раёне*. Агропункту таксама няма. Канцэлярыя зьмясьцілася ў клюбе Райвыканкома. Тут-жа каля стала на падлозе ляжыць пасьцель агронома, якая ноччу кладзецца на стол.

Разам з Крупскім раённым агрономам азнаёміўся з вёскай Малая Слабада, якая ў 1923 г. перашла на шматпольле. Дзень быў рабочы, сяляне былі ўсе на полі. Пашлі на поле і мы. Хутка сталі падыходзіць і зьбірацца сяляне. Як відаць было далей, і ў іх справы ня дрэнныя. *Вёска на 100% зьяўляецца пайшчыкам коопэратыву; ёсьць хата-чытальня, с.-г. гурток; выпісваюцца „Звезда", „Крестьянская Газета" і часопісь „Сам сабе агроном"*. [1])

*Агропункт Халопенічы* (Барысаўшчына). Ужо позны час, а агрономы яшчэ не зьвярнуліся з працы. Першым вярнуўся памоцнік агронома, які за 7 вёрст пехатой хадзіў закладваць паказальны вучастак з кораньплодамі. Райагроном зьвярнуўся толькі на другі дзень.

А трэцяй-жа гадзіне раньня чую ўжо стукаюць у вакно: гэта сяляне, якія прывезьлі чысьціць насеньне, будзяць агронома. А 8 гадзіне іду на базарную плошчу, дзе зьмяшчаецца пункт для ачысткі насеньня. Уся плошча занята вазамі, хоць дзень быў і не гандлёвы. Агроном вядзе сьпіс на чаргу да машын. Ідуць спрэчкі, хто прыехаў раней. Ужо запісалася больш 50 чалавек і некаторыя сяляне зьбіраюцца ехаць назад, бо яны прыехалі пазьней і сёньне не пасьпеюць на ачыстку. У будынку пункту стук і грукат. Адначасова працуе трыер-двайнік, трыер-кукаляадборнік, дзьве сартоўкі „Трыумф" і трашчотка.

Дзівяцца сяляне, што так добра дзеліць трыер на тры сарты збожжа. „Паглядзеце", кажа селянін: „прывёз ячмень, а цяпер аўса адабраў больш, чым ячменю!".

Але не абыходзіцца і тут бяз кур'ёзаў. Напрыклад, адзін селянін прынёс пуды паўтара ячменю і прапусьціў яго на трыер. Вышла добрага насеньня каля 20—30 фун.

„Хоць і добра сартуе, кажа селянін, але не для мяне. Мне трэба пасеяць усё ($1^1/_2$ п.), бо больш няма. Каб гэта было ўвосень, тады лепшае пакінуў бы сеяць, а горшае скарміў. А цяпер што рабіць?".

Узяў селянін і зьмяшаў усе тры сарты зноў разам, выкінуўшы толькі бузу.

*Далей перад намі Аршаншчына.* Іншыя малюнкі. Замест лёгкіх супяскоў, якія пераходзяць у пяскі, пацягнуліся суглінкі. Прыгожа выглядаюць вёскі з добрым будынкам.

*Пападаем на агропункт Талочын.* Ён знаходзіцца каля мястэчка. Абсталяваны добра. Добры будынак, нават ёсьць два павільёны для выставак, што сустрэць можна рэдка. Агрономы ў Талочыне працуюць па некалькі год.

Аглядаем з агрономам вёскі, якія пераведзены на шматпольле, а іх у гэтым раёне многа. Знаходзяцца яны неяк купамі. Вось вёскі—

---

[1]) Шкода, што агрономы не зацікавілі сялян часопісьсю „Плуг" і газэтаю „Белар. Вёска" (Рэд).

Лагоўшчына, Масацішча, Сіўцова, Азярцы. Ва ўсіх шматпольныя севазвароты. Калі выходзіш на поле, дык відаць канюшынная зьмена.

*У вёсцы Азярцы* ёсьць добры бык, які прымаецца ў хлеве на працягу ўсяго году. Ёсьць пажарная дружына. Каля кожнай хаты стаіць бочка з вадой. Пачалі нават будаваць пажарную вежу (вышку).

*У вёсцы Лагоўшчына* ёсьць сэпаратар агульнага карыстаньня. Пытаем ўпаўнаважанага: „Ці ўсе гаспадары носяць малако прапускаць на сэпаратар?“. Выходзіць, што ў першы год, як прывезьлі сэпаратар, насілі малако толькі некалькі гаспадынь, а цяпер дык носяць усе і патрэбна ўжо чарга.

*Вёска Падбярэзьзе, Коханаўскага раёну.* Гэта старая вёска па шматпольлю. Канюшыну пасеялі тут вясной 23 году. Цяпер на гэтым полі жыта. Сяляне вядуць у поле і паказваюць жыта на канюшынішчы, якое выглядае лепш, чым на папары і па гнаі. Паказваючы сваю канюшыну, сяляне вёскі Падбярэзьзя прасілі агронома даставіць ім канюшыну другога сорту, якая-б расла ня так буйна, як цяпер „Пермская“. Яна так расьце, што мы і справіцца ня можам. Калі ласка, т. агроном, не забудзьце на той год дастаць нам канюшыны менш ураджайнай“.

Агроном з усьмешкай тлумачыць сялянам выгаду Пермскай канюшыны і кажа, як рабіць яе прыборку, каб мець больш добрага і мяккага сена.

*А вось пасёлак Каралькі,* Горацкага раёну. Таксама шматпольны севазварот уведзены і тут 1923 г. Канюшына выглядае тут яшчэ лепш, бо поле роўнае, у шырокіх палосах. Пасёлак Каралькі ўжо сьвяткаваў „Дзень Шматпольля“, на які запрасіў суседні пасёлак, дзе шматпольля у той час яшчэ ня было. Пасьля сьвята і гэты пасёлак пастанавіў перайці на шматпольле. *Так цягне да сябе шматпольная гаспадарка.*

Шмат яшчэ чаго можна было-б сказаць аб тых вёсках, якія перайшлі на шматпольле, але адразу ўсяго ня скажаш. Адно трэба падкрэсьліць, што наша вёска перабудоўвае сваю гаспадарку і шпарка ідзе наперад.

П. Заяц.

---

# Што трэба судзіць нарсуду, а што зямельнай камісіі.

Шмат непаразуменьняў зараз бывае затым, што справы аб раздзеле маемасьці разглядае нарсуд, а не зямельныя камісіі.

Зямельным камісіям на падставе 79 арт. Зямельнага Кодэксу падсудны іскі аб разьдзеле зямлі, якая знаходзіцца ў карыстаньні сялянскага двара, а таксама і іскі аб разьдзеле іншай агульнай маемасьці, якія прад‘яўляюцца разам з хадайніцтвам аб разьдзеле зямлі. Іскі-ж аб разьдзеле аднае маемасьці—будынкаў, жывога і мёртвага інвэнтару, ураджаяў і інш. без зямлі—падсудны народнаму суду.

Да мінулага году спраў, падсудных народнаму суду, было мала; за тое кожны год вельмі павялічвалася колькасьць спраў аб разьдзелах у зямельных камісіях.

Разьдзелы робяць сялянскія гаспадаркі заняпалымі. Новыя гаспадаркі, якія атрымаліся пасьля разьдзелу, заўсёды даюць менш выгады, чым тыя гаспадаркі, з якіх яны ўтварыліся. Гэта ня цяжка давесьці прыкладамі. Догляд за 2 каровамі ў аднэй гаспадарцы патрабуе ў два

разы менш часу, чым за тымі-ж двумя каровамі ў двух гаспадарках. Гаспадыня, каб зварыць абед на 10 чалавек у аднэй гаспадарцы, страціць столькі-ж часу і дроў, колькі патрабуецца зварыць абед на 5 чалавек у кожнай з 2-х падзяліўшыхся гаспадарак. Узорваньне і прыборка ўраджаю, вывазка гною і іншыя працы ідуць хутчэй і з большым посьпехам у вялікай сям'і, чым у малой.

На практыцы заможная гаспадарка пасьля разьдзелу дае дзьве ці тры гаспадаркі, якія церпяць ва ўсім недастачу. Дробная гаспадарка мае лішкі рабочай сілы, жывога і мёртвага інвэнтару, будынкаў і ня можа іх скарыстаць роцыянальна. Такая гаспадарка не заўсёды можа выплачваць налог, ня мае за што купіць рэчы прамысловасьці, горш ўгнойвае і выробляе зямлю, а гэта ўсё шкодна адбіваецца на народнай гаспадарцы ў цэлым.

На ўсё гэта зьвярнулі ўвагу законадаўчыя органы БССР і затым IV сэсія Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту VI скліканьня ў рэзолюцыі сваёй аб мерах па дадатковаму землянадзяленьню беззямельных і зусім малазямельных сялян 7 лютага 1925 г. пастанавіла часова спыніць разьдзелы сялянскіх гаспадарак на вызначаны Саўнаркомам тэрмін.

У выканьне гэтай рэзолюцыі Саўнаркомам 10 красавіка 1925 г. выдана пастанова аб спыненьні разьдзелаў сялянскіх гаспадарак. З 1-га травеня таго-ж году забаронены фактычныя разьдзелы зямлі, спынена рэгістрацыя райвыканкомамі дабрахвотных разьдзельных запісяй і прыём зямельнымі камісіямі іску аб сямейных разьдзелах да асобнага распараджэньня. Толькі ў выпадку немагчымасьці сумеснага жыцьця членаў двара, дазваляецца па рашэньню раённай зямельнай камісіі разьдзел гаспадаркі, якая не падлягае абрэзцы. Фактычныя разьдзелы гаспадарак зробленыя без рашэньня зямельнай камісіі і без рэгістрацыі Райвыканкома не прызнаюцца. Самавольна разьдзяліўшыяся двары будуць лічыцца адзінымі, як пры земляўпарадкаваньні і абрэзцы гаспадарак, так і пры спагнаньні ўсякіх збораў і павіннасьцяй.

Разьдзел выклікаецца ў вялікіх гаспадарках жаданьнем абараніць іх ад абрэзкі, таксама зьменшыць разьмер належачых з гаспадаркі падаткаў. Дробныя гаспадаркі дзеляцца дзеля таго, каб атрымаць прырэзку зямлі з запаснага фонду. У іншых выпадках разьдзелы бываюць ад немагчымасьці сумеснага жыцьця членаў двара.

З прычыны таго, што разьдзелы зямлі і гаспадаркі ў цэлым цяпер у райвыканкомах і зямельных камісіях спынены, члены двара, якія жадаюць дабіцца яго разьдзелу, прад'яўляюць на падставе 79 арт. Зямельнага Кодэксу ў народным судзе іскі аб разьдзеле будынкаў, жывога і мёртвага інвэнтару, ураджаю і іншай агульнай маемасьці. Колькасьць гэтых іскаў усё павялічваецца.

Народныя суды ў большасьці выпадкаў задавальняюць іх нават і тады, калі гаспадарка па колькасьці зямлі зьяўляецца на падставе правіл аб нормах і разьдзелах недрабімай.

Атрымаўшы рашэньне народнага суда аб разьдзеле маемасьці, члены двара дабрахвотна дзеляць паміж сабою зямлю і такім чынам абходзяць пастанову Саўнаркому аб спыненьні разьдзелаў сялянскіх гаспадарак, ці сумесна карыстаюцца зямлёю, разьмеркаваўшы паміж сабою ў разьдзельнае карыстаньне іншую маемасьць са складу двара. У апошнім выпадку яны, бывае, прадаюць атрыманую маемасьць, а самі пераходзяць на заняткі не па сельскай гаспадарцы.

Рашэньне народнага суда аб прысудзе членам двара маемасьці без зямлі абеззямельвае іх. Члены двара, дабіўшыся ў народным судзе

выдзелу маемасьці, зьвяртаюцца ў зямельныя органы з хадайніцтвам аб надзяленьні іх зямлёю, як беззямельных. Колькасьць такіх беззямельных усё павялічваецца і ніякага запаснага фонду ня хопіць, каб здаволіць іх.

Зямельныя органы, дзякуючы гэтым рашэньням, ня могуць выканаць узложаны на іх 7-м арт. Зямельнага Кодэксу абавязак па нагляданьню за правільным і мэтазгодным карыстаньнем зямлёю, якая перадана дзяржавай сялянам для вядзеньня на ёй сельскай гаспадаркі.

Гэта бывае ад таго, што разьдзелы зямлі і ўсёй гаспадаркі ў цэлым спынены ў зямельных камісіях і райвыканкомах, але ня спынены ў народным судзе разьдзелы агульнай маемасьці двара. Акрамя таго, народныя суды разглядаюць іскі аб разьдзеле ў натуры будынкаў жывога і мёртвага інвэнтару, ураджаю і іншай агульнай маемасьці пры выхадзе часткі членаў недрабімай гаспадаркі, хаця ў гэтым выпадку на падставе 84 арт. Зямельнага Кодэксу магчымы прысуд толькі выплатаю грашмі або запасамі і пры тым толькі па рашэньнях зямельных камісій.

Урэшце, правядзеньне ў жыцьцё зямельнымі органамі абавязку па рэгуляваньню працоўнага землякарыстаньня зьяўляецца больш цяжкім дзеля таго, што іскі аб разьдзеле маемасьці агульнага карыстаньня сялянскага двара без зямлі не падсудны (па 79 арт. Зямельнага Код.) зямельным камісіям. Паміж іншым гэта маемасьць таксама, як і зямля, служыць для с.-г. вытворчасьці і патрэбна для вядзеньня сельскае гаспадаркі. Яна належыць неразьдзельна да ўсіх членаў двара.

Здавалася-б, што ня можа быць дваякай падсуднасьці: іскі аб разьдзеле зямлі ў сялянскай гаспадарцы, а таксама прад'яўляемыя разам з імі іскі аб разьдзеле маемасьці прызнаваць падсуднымі зямельным камісіям, іскі-ж аб разьдзеле адной маемасьці бяз зямлі—народнаму суду. Калі члены двара, якія маюць права ў ім на зямлю, будынкі, інвэнтар і інш. прад'яўляюць іскі аб выдзеле ім маемасьці, то суд, здаволіўшы такі іск, пакідае істцоў беззямельнымі. Такія справы павінны былі-б вырашацца зямельнымі камісіямі, а не народным судом, бо разьдзел маемасьці выклікае пытаньне аб праве карыстаньня зямлёю. Гэта тым больш неабходна, што зямельным камісіям на падставе 84 арт. Зямель. Код. падсудны іскі аб выплатах, якія прад'яўляюцца к недрабімаму двару выступаючымі з яго членамі.

Калі-б ў земельных камісіях, якія знаходзяцца пры зямельных органах, зьбіраліся ўсе справы аб разьдзелах ня толькі зямлі, двара, але і іншай агульнай маемасьці, патрэбнай для вядзеньня сельскай гаспадаркі, то гэта дало-б магчымасьць зямельным органам рэгуляваць працоўнае землякарыстаньне і спыніць разьдзелы сялянскіх гаспадарак.

Толькі іскі аб маемасьці без зямлі, якія прад'яўляюцца ня членамі двара, павінны быць падсуднымі народнаму суду, бо ня члены двара ня маюць права на карыстаньне зямлёю ў складзе двара і іскі іх маюць грашовы характар, напрыклад, іскі, што вынікаюць з дагавору, акрамя працоўнай арэнды зямлі, іскі аб убытках і інш.

**Я. Вішнеўскі.**

**Ад рэдакцыі**. Зьмяшчаючы гэты артыкул у дыскусыйным парадку, рэдакцыя просіць чытачоў выказацца па закранутаму ў ім пытаньню, аб мэтазгоднасьці перадачы на разгляд зямельных камісій іскаў аб разьдзеле паміж членамі сялянскага двара маемасьці агульнага карыстаньня без зямлі, *як будынкаў, жывога і мёртвага інвэнтару, ураджаю і інш.*

# Чаму навучыў „Плуг“.

**Праз „Плуг“ завялі сэрадэлю. Праз „Плуг“ пачалі працу на балоце.**

Пакуль я не атрымоўваў с.-г. часопісі „Плуг“, дык сяляне нашай вёскі Лёхава жылі па старому. Нельга было прымецiць у вёсцы штонебудзь новае, культурнае. Праўда, найбольш перадавыя сяляне сеялі канюшыну *(Драздоўскі Дзямід, Зуеў Сяргей* і інш*)*, а большасьць дрэнна вырабляла сваю зямлю, кожны год цярпелі бязкорміцу, а часта і самі сядзелі бяз хлеба. Я пачаў першы чытаць „Плуг“, а далей і суседзі. Цяпер у нас адбыліся месячныя с.-г. курсы (сяляне былі прыкладнымі слухачамі). Памалу сяляне пачалі будаваць гаспадарку па новаму. Сёлета ўжо Лёхаўцы засеялі каля 10 пудоў канюшыны і першы раз у жыцьці прывезьлі 3 пуд. сэрадэлі, якую пасеялі так, як апісана ў „Плузе“. Праўда, трохі спазьніліся мы з сэрадэляй (у гэтым вінавата крэдытовае таварыства, якое спазьнілася з прывозам насеньня сэрадэлі), але „ўсё-ж такі, кажуць сяляне, — раз агрономы пішуць, дык трэба пасеяць“. Галоўнае, што сэрадэля ня шкодзіць збожжу і з *аднаго поля ў адно лета можна атрымаць два ўраджаі*“. Сялюкін Сяргей атрымаў у крэдыт 30 фун. насеньня сэрадэлі, Сялюкін Цярэнці 30 фун., Зуеў Сяргей 20 фун., Драздоў Дзямід 30 фун., і бядняк Сямоха Ісак—10 фун. Вось колькі сэрадэлі сёлета пасеялі нашы сяляне. А сталася ўсё гэта дзякуючы „Плугу“, які чытаюць ахвотна гаспадары.

Цяпер у сельсавет прывезьлі трыер і трашчотку. Сяляне абозамі цягнуцца да іх, каб ачысьціць сваё насеньне, і ўжо чыстае кідаюць у зямлю.

Таксама і вялікае балота „Сабалёўка“ павінна згінуць у будучым годзе, бо за яго бярэцца мэліорацыйнае таварыства.

Сел. **С. Сялюкін.**

---

**Таварышы сяляне, чытайце сваю часопісь „Плуг“**

**і пашырайце падпіску!**

---

# ПАЛЯВАЯ ГАСПАДАРКА

## Якую мы абралі шасьцёхпалёўку.

**Наша шасьцёхпалёўка мае канюшыну, лубін, заняты папар. Мы сеем пшаніцу-зімку, бульбу, лён.**

Карысьць шматпольля селянін зразумеў. Цяпер у яго паўстае пытаньне, як-жа з трохпалёўкі зрабіць пераход на шматпольле, як завесьці правільны севазварот? Гэта пытаньне надта часта паўстае перад селянінам і яго нават пры дапамозе агранома цяжка вырашыць. Над ім і мы з бацькам шмат падумалі.

Наша думка была накіравана на тое, каб бяз доўгіх пераходных табліц зрабіць шасьцёхпалёўку такую, каб яна была прыстасавана і да гаспадаркі, і да рынку.

Праўда, у нас былі пад рукамі с-г. часопісі „Плуг“ і „Сам сабе аграном“ і дапамагалі нам у гэтай справе, але ўсё-ж трэба прызнацца, што мы не маглі прыстасаваць ні адзін севазварот бяз доўгага пераходу.

Тут я хочу азнаёміць сялян з тым севазваротам, які мы абралі да сваёй гаспадаркі.

Раней у нас было тры зьмены—*папар* (параніна), *жыта* і *ярына*. Мы іх разьбілі папалам і атрымалі шэсьць зьмен *(кожная па 840 кв. саж.)*.

У першай зьмене, якая была прызначана пад жыта, пасеялі (палову) пшаніцу-зімку і жыта.

*Чаму мы гэтак зрабілі?* Поле для пшаніцы мы адвялі таму, што за апошнія тры гады пшаніца ў нас на Беларусі пачала добра радзіць і даваць прыбытак; цана на яе стаіць многа вышэй, чым на жыта. Мы пасеялі пшаніцу сорту „высокалітоўская“, якая ў гаспадароў нашага сяла Бракава найбольш ураджайна і прызвычаена да нашых умоў.

*У другой зьмене*, якая была прызначана пад папар (яе мы таксама разьбілі папалам) заставілі $1/4$ плошчы чорнага папару, $1/4$ занятага і адну (новую) зьмену засеялі лубінам на ўгнаеньне. Гэта мы зрабілі дзеля таго, што пры малай плошчы зямлі чорнага папару пакідаць шмат нясходна.

Некалькі слоў аб занятым папары. Ён надта карысны бывае тады, калі займаецца выка-аўсянай мешанінай (аўса-вычкай) і бульбай. Мешаніну патрэбна сеяць на скос, бо яна к часу заворваньня папару можа скарміцца жывёлай. Гэты вопыт з выкай мы ўвялі ў сваёй гаспадарцы яшчэ пры трохпольлі. Трэба адзначыць, што летась жыта на занятым папары было аднолькавае з жытам, пасеяным на чыстым папары.

Але нішто так ня выгадна сеяць, як лубін (ня толькі на ўгнаеньне, але і на насеньне). Гэта даказала і практыка нашых бракаўскіх сялян. Жыта, якое пасеяна па лубіну расьце ўсё адно як па гнаі, і ня толькі жыта, а нават удаецца і пшаніца азімка.

Лубін на насеньне некаторым нашым Бракаўскім сялянам даў шмат прыбытку, бо 1 п. насеньня даваў да 20 п. Цяпер-жа 1 п. лубіну каштуе каля 1 р. 50 к. Такая цана мо‘будзе яшчэ некалькі год. Гэта мы і ўлічылі пры пераходзе на шматпольле.

*У трэцяй зьмене,* якая пры трохпалёўцы была прызначана пад ярыну, таксама разьбіта папалам. У аднэй зьмене пасеялі ярыну—*лён*, *бульбу*, *авёс*, і інш., а ў другой—ярыну з падсевам канюшьны.

Гаварыць аб выгадзе такіх расьлін, як канюшына, бульба, авёс, лён—ня трэба, бо гэта такія расьліны, карысьць якіх цяпер ведае кожны селянін ці самая заняпалая вёска. Але ўсё-ж цяжка ўмаўчаць і хочацца сказаць некалькі слоў аб такой каштоўнай расьліне, як канюшына, якая, як бачыце, паламала „ў пух і прах“ трохполку. Тут успамінаюцца мне словы Зубрыліна, што „канюшына і трохпольле—заклятыя ворагі: яны ніколі ня ўжываюцца разам“.

Раней мы сеялі канюшыну толькі на невялічкім кавалачку ў гародзе, якая па разьліку на дзес. дала 300 пуд. сена акрамя атавы. Яе мы сёлета пакінулі на насеньне (гл. „Плуг“ № 3).

Пасьля канюшыны зямля ўзбагачваецца азотам і наогул угнойваецца. Вось чаму ў нашым шасьцёхпольлі кожны год будзе два палі пад канюшынай. Пасьля канюшыны 2-га году ў нас выпадае сеяць лён, авёс ці бульбу, а гэтыя расьліны добра растуць пасьля канюшыны.

Вось галоўныя асаблівасьці пераходу на абранае намі шасьцёхпольле.

**Селянін М. Тарасенка.**

(Сяло Бракава, Магілеўшчына)

---

# Выраб раньняга папару.

**Папар трэба рана ўгнаіць і заараць, а далей усё лета трымаць яго пульхным і чыстым.**

Раньнім папарам лічыцца тое поле, на якое вясною вывозіцца гной і зараз-жа заворваецца. Я хочу тут падзяліцца з чытачамі „Плуга“ спосабам вырабу папару, якім карыстаемся мы ў сваёй гаспадарцы. Вось як мы яго вырабляем: управіўшыся з сяўбою ярыны, прыблізна ў апошніх чыслах травеня месяца, вывозім гной і зараз-жа заворваем яго на глыбіню 3—3½ вярш. Тыдні праз тры пасьля гэтага, калі папар пакрыецца зялянінаю сарнякоў і скарынкаю ад дажджоў, баронуем у адзін сьлед звычайнаю бараною (лепш баранаваць пружыноўкаю, у каго яна ёсьць) і гэтак усё лета да часу мешані папару (да паловы ці канца ліпеня). Тут ужо папар арэцца на глыбіню 4—4½ вярш. і затым сеем жыта ў канцы ці палове жніўня.

Гэты спосаб вырабу папару добры тым, што пры ім у глебе ўвесь час трымаецца пад верхнім невялікім слоем вільгаць, зямля бывае пульхная, у ёй добра перагнівае гной. Добра-ж перапрэўшы гной

адразу пасьля ўсходаў жыта спажываецца расьлінамі і тым самым добра адбіваецца, як на росьце руні, так і на велічыні ўраджаю.

Пры звычайным-жа сялянскім позным папары, па ім усё лета ходзіць без карысьці скаціна, зьбівае яго. Ад гэтага зямля папарная высыхае і дае слабы ўраджай.

Хоць наш спосаб патрабуе больш працы, але ён добра аплачваецца ў параўнаньні з сялянскім.

Сел. У. Карнейчык.

Сарачынава, Меншчына.

---

# Здымайце два ўраджаі ў адно лета.

**Пасьля прыборкі ячменю ці жыта, да восені застаецца каля двух м-цаў. За гэты час можа яшчэ вырасьці на сена аўса-вычка, кармовая рэпа ці лён на валакно (пажніўныя расьліны).**

Вядома, што ўраджай кожнай расьліны ў гаспадарцы залежыць ня толькі ад вырабу поля і яго ўгнаеньня, але і ад пагоды. Тут трэба разумець галоўным чынам той час, калі бываюць дажджы.

Пры кліматычных умовах Беларусі вельмі часта здараецца, што дажджы праходзяць вясною, а пад канец вясны (травень) і ў пачатку лета іх бывае мала. Шмат-жа якія расьліны ў гэты час патрабуюць многа вільгаці і адчуваюць яе недахоп. Дажджы другой паловы лета (ліпень—жнівень) застаюцца нескарыстанымі, бо ўраджай галоўных расьлін ужо прыбраны ці прыбіраецца.

Вось чаму ў засушлівы год вельмі добра зараз-жа пасьля прыборкі жыта ці ячменю поле хутка вырабіць і заняць новымі расьлінамі („*пажніўныя расьліны*“), каб у поўнай меры скарыстаць дажджы другой паловы лета, а таксама цяплыню і сьвет сонца.

Праўда, гэтыя пажніўныя расьліны могуць ня даць высьпеўшага зярна (поўнага ўраджаю), але яны могуць даць добры корм (*зялёны ці сухі*), што ня менш цікава для гаспадаркі.

*Якія-ж расьліны тут найбольш цікавы?* Перш трэба назваць мешаніну выкі з аўсом. Гэта мешаніна можа быць скарыстана ў любы момант свайго разьвіцьця. Прыкладам, да красаваньня выкі патрэбна 6—8 тыдняў, а ў гэты час і бывае самае цэннае сена. Можна-ж карыстацца мешанінай і на зялёны корм. Зусім падобнай да выкі расьлінай зьяўляецца *гарох*. Ён дае яшчэ больш зялёнай масы на корм.

З посьпехам можна сеяць, як пажніўную расьліну, турнэпс (кармовую рэпу) і *гародную рэпу*. Раньнія сарты рэпы да восені пасьпяваюць даць добры ўраджай, калі іх сеяць нават 15—20 ліпеня.

З турнэпсаў таксама трэба выбраць раньні сорт. Ён дае добры ўраджай праз 8—9 тыдняў. Цікава, што турнэпс можна падсяваць і з вясны ў жыта, як гэта робяць сяляне Даніі.

Пасьля прыборкі жыта турнэпс сваімі лісьцямі і караньплодамі зьяўляецца найлепшай пашай для скаціны. Дацкія сяляне на такім полі пасуць кароў, а далей і сьвіньней.

Можна яшчэ назваць *лён і грэчку*, як пажніўныя расьліны. Лён у такім разе можна сеяць толькі на валакно, якое будзе добрым, калі прыборку лёну зрабіць праз 5—10 дзён пасьля красаваньня, як гэта робіцца ў Бэльгіі.

*Грэчка* можа даць вельмі добры ўкос зялёнай масы на корм, бо для высьпяваньня на насеньне яна патрабуе каля $2^1/_2$ мес.

*Пасеў кожнай з пералічаных расьлін* нічым не адрозьніваецца ад пасеву іх вясною ў звычайны час.

Новым для селяніна тут можа быць толькі першы выраб поля. Справа ў тым, што зараз-жа пасьля прыборкі жыта ці раньняй ярыны, поле ўзорваецца на 4—6 см. ($1—1^1/_2$ вярш.), а праз тыдзень яго аруць у другі раз на поўную глыбіню і сеюць абраную пажніўную расьліну. Пасьля першай мелкай воранкі поле пасьпявае добра адсырэць і вільгаці хапае для прарастаньня насеньня, калі-б у гэты час нават і ня было дажджоў.

Калі-ж здараецца так, што ў час прыборкі першых галоўных расьлін праходзяць дажджы, г. зн. зямля бывае сырая, то глыбокая воранка спаўняецца адразу і зараз-жа сеецца пажніўная расьліна.

Такім чынам, пасевам пажніўных расьлін гаспадар здымае з *аднаго поля другі ўраджай* і значна павялічвае запас корму.

Але апрача гэтай выгады, пасеў пажніўных расьлін мае яшчэ і другое вельмі вялікае значэньне для гаспадара: *ён праводзіць правільны выраб поля.* Калі поле будзе ўзварушана зараз пасьля прыборкі жыта (бяз усякага пасеву), то яно да восені як-бы папаруе (і праўда, якая розьніца у тым, што поле папаруе з вясны да сярэдзіны лета ці з паловы лета да восені!).

Пасеяць-жа яшчэ пажніўныя расьліны пры такім вырабу поля— гэта значыць „асеньні папар“ робіць ужо „занятым асеньнім папарам“.

Вось чаму пажніўныя расьліны ня толькі павялічваюць корм, але ўзьнімаюць і ўраджайнасьць глебы. У гэтым двайная і карысная роля пажніўных расьлін.

**С. Тупяневіч.**

---

# Як сяляне Бабруйшчыны сеюць канюшыну.

**Канюшыну лепш сеяць разам з цімафейкай і пад авёс. Насеньне лепш гадаваць з атавы.**

Пасеў канюшыны ў раёне Турскай с.-г. дасьледчай станцыі мае вялікае значэньне.

Абсьледаваньне пасеву канюшыны было зроблена ў 15 гаспадарках (13 сялянскіх, 1 арцель і 1 пасёлак), якія знаходзяцца ў паблізку дасьледчай станцыі. Сеялі канюшыну ў большасьці хутарскія гаспадаркі. За апошні час канюшына ўведзена ў гаспадарках арцелі, а таксама і ў гаспадарцы пасёлкаў, якія цяпер організуюцца.

*Прыкрываючыя канюшыну расьліны.* Большасьць гаспадароў падсявалі канюшыну пад авёс, ячмень і яравую пшаніцу. Таксама падсявалі канюшыну і да зімовага жыта, але большасьць гаспадароў лічаць, што найлепш удаецца канюшына пры падсеве яе пад авёс. Адзначаецца, што канюшына, якая падсеяна пад авёс, расьце лепш, чым пры падсеве яе пад ячмень, пшаніцу і жыта (асабліва ў сухмень).

Ураджай канюшыннага сена ў пудох з 1 дзес. у сярэднім за 3 гады па вопытах Турскай дасьледчай станцыі па аўсу 333 п. 26 ф., па ячменю 312 п., па яравой пшаніцы 325 п.

Вынікі прац дасьледчага поля супадаюць з вынікамі ў сялян.

*Час пасеву.* Большасьць гаспадароў сеюць канюшыну ў палове красавіка, але бываюць выпадкі пасеву ў канцы красавіка і пачатку травеня. Пробныя пасевы на дасьледчым полі ў канцы травеня за апошнія гады былі лепшыя, чым раньнія пасевы.

*Пажніўныя пасевы* вельмі цікавыя і можна думаць, што яны будуць такія, як і вясеньнія (можна бачыць залежнасьць дружнасьці ўсходаў і іх разьвіцьця ад вільготнасьці глебы і пагоды ў працягу 15 дзён пасьля пасеву).

Большасьць гаспадароў (13) барануюць канюшыну пасьля пасеву ў адзін сьлед бараной з жалезнымі зубамі, а некаторыя спэцыяльнымі баронамі з кароткімі зубамі. Па жыце зусім не барануюць.

*Пасеў.* Часьцей сеюць канюшыну разам з цімафейкай. Высяваюць 30—40 фун. канюшыны і 5—10 фун. цімафейкі, але бываюць выпадкі пасеву 15 фун. цімафейкі на 30 фун. канюшыны, таксама і па 8 ф. цімафейкі (супадае з данымі дасьледчага поля).

*Цімафейка ў мешаніне з канюшынай.* Большасьць гаспадароў (65 проц.) практыкуе пасеў канюшыны з цімафейкай. Меншасьць (35 проц.) сее без цімафейкі, бо лічаць гэта нясходным пры кароткім часе карыстаньня канюшынаю (1-2 гады).

*Час карыстаньня.* Карыстаюцца канюшынаю тры гады 57 проц. сялян, два гады 38 проц. і адзін год 6 проц. гаспадароў. На дасьледчай станцыі карыстаюцца звычайна тры гады, а бывае, што на трэці год вучастак ідзе пад выпас.

*Ураджай канюшыны.* Палавіна гаспадароў прабавалі здымаць ураджай у год пасеву, асабліва ў 1923 г., у сярэднім 76 пуд. на дзес. (ад 40 да 120 пуд.). Пры буйным росьце ў гэтым годзе і на дасьледчай станцыі накашвалі да 700 п. зялёнае масы канюшыны. Некаторыя гаспадары ў першы год ня страўліваюць пасевы канюшыны, лічачы гэта шкодным. Позна ўвосень 57 проц. гаспадароў страўліваюць канюшыну, бо баяцца, каб канюшына пад сьнегам ня прэла. Галоўны ўкос у пачатку чэрвеня 17 проц., у палове—45 проц., у канцы чэрвеня 38 проц. і ў пачатку ліпня 8 проц. Атаву косяць каля 15 жнівеня 77,28 проц., а ў канцы жнівеня 21 проц.

| УРАДЖАЙ КАНЮШЫНЫ | У сялян | На дасьл. станцыі |
|---|---|---|
| Ураджай галоўнага ўкосу першага году . . . . . . | 212 пуд. | 186 пуд. |
| Ураджай атавы . . . . | 112 „ | 100 „ |
| Ураджай другога году, галоўны ўкос . . . . . . | 112 „ | 120 „ |
| Атавы . . . . . | 80 „ | 100 „ |

Ураджай канюшынавага сена ў сялян большы, чым у гаспадарцы дасьледчай станцыі, і гэта тлумачыцца тым, што сяляне прыбіраюць ураджай ручным спосабам.

Атава першага году, як паша, скарыстоўваецца большасьцю гаспадарамі пасьля другога ўкосу і позна ўвосень, калі прымерзьне зямля.

На дасьледчай станцыі не пасуць скаціну на канюшынішчы, бо ад гэтага бывае ня пэўны ўраджай насеньня канюшыны.

Большасьць гаспадароў скарыстоўваюць пад выпас канюшынавую атаву другога ўкосу, меншасьць пасьля першага ўкосу пушчае скаціну тыдні на 3-4.

*Насеньне канюшыны.* Гаспадары самі ў сваёй гаспадарцы маюць насеньне канюшыны—меншасьць атрымоўвае насеньне ад першага ўкосу, а большасьць ад другога. Насеньне ад другога ўкосу бывае дробнае, а ад першага буйное. Тут нагляданьні дасьледчай станцыі не супадаюць з данымі сялян. Па выніках дасьледчай станцыі схадней атрымаць насеньне канюшыны з другога ўкосу першага году. Яно роўнамерна пасьпявае, што бывае вельмі рэдка з насеньнем першага ўкосу. Акрамя таго, схадней скарыстаць першы ўкос на сена, бо досьлед паказаў, што атава дае такі-ж ураджай, як і першы ўкос.

*Угнаеньне пад канюшыну.* Гаспадары, якія спрабавалі сеяць канюшыну па гнаі і без яго, кажуць, што ўгнаеньне патрэбна пад канюшыну. Без угнаеньня на нашай зямлі няма і канюшыны. Гэта нагляданьне вельмі цікавае, бо яно супадае з навейшымі данымі с.-г. навукі, якія падкрэсьліваюць, што ўгнаеньне значна павышае ўраджай бабовых, так і канюшыны.

На погляд гаспадароў, канюшына лепш ўдаецца на нізкіх мясцох, але калі глеба значна ападзолена, то тады канюшыну лепш сеяць на высокіх мясцох.

**Б. Бабіцкі.**

---

# Як здабываць дармовае ўгнаеньне.

**Кожны гаспадар можа сам прыдбаць добрага ўгнаеньня, калі скарыстае розныя адкіды.**

Наша зямля патрабуе ўгнаеньня, а ў нас яго занадта мала. Мала-ж таму, што мы ня ведаем, скуль яго ўзяць і ня шукаем выйсьця з становішча, а выйсьце ёсьць, трэба толькі пашукаць.

У кожнай гаспадарцы ёсьць шмат празнага хламу, які можа быць добрым угнаеньнем. Напрыклад, выпалкі сарнякоў, якія ляжаць на гародах або полі і засьмечваюць іх; з хаты вымятаюць сьмецьце і выліваюць памыі на вуліцу і гэтым псуюць паветра; па задворках валяецца здохлая птушка і інш.; таксама попел, сажа ў шмат якіх гаспадарках прападаюць дарэмна. Дзякуючы адсутнасьці адхожых месц забруджваюцца двары, сьвіньні зьядаюць „начное золата“ без усякай для іх карысьці, разносячы гэтым толькі заразу; у садох лісьце таксама прападае дарэмна і глушыць траву, на месцы якой растуць толькі сарнякі; скаціна часта стаіць па калені ў гнаёвай жыжцы, што вельмі шкодна для яе здароўя. Гэта жыжка ўцягваецца ў зямлю і выпарваецца, ня прыносячы ніякае карысьці. Навакол нас ляжаць тарфяныя балоты, у лясох вякамі ляжыць мох, кара і ўсялякі хлам, што можна было-б скарыстаць на подсьціл. Кожны гаспадар можа яшчэ шмат знайсьці рэчаў каля сваёй гаспадаркі і мець ад іх карысьць. Так, напрыклад, на подсьціл можна скарыстаць шмат матар'ялу, як торф, лісьце дрэў і г. д. Торф уцягвае ў сябе жыжку і дае добры дробны гной. Кожная гаспадарка можа завесьці кампосную кучу, куды і звальваць увесь хлам, які потым абернецца ў добрае ўгнаеньне. Гнаёвую

кучу трэба закладаць на задворках і па магчымасьці пад павецьцю і паліваць яе мыльнай вадой, памыямі, а таксама мачой жывёлы і чалавека. Кампосную кучу трэба агарадзіць, каб ня рыліся ў ёй сьвіньні і іншая хатняя жывёла. Акрамя таго, на самым нізкім месцы двара трэба выкапаць памыйную ямку, куды будзе сьцякаць са двара лішняя жыжка. Усякія хэмічныя адкіды на заводах таксама могуць быць скарыстаны на ўгнаеньне.

Такім чынам, пры жаданьні ў кожнай гаспадарцы можна знайсьці шмат непатрэбнага матар'ялу і скарыстаць яго на ўгнаеньне.

Апрача таго, цяпер па ўсіх с.-г. і коопэрацыйных складах ёсьць многа ўсякага ўгнаеньня, якое можна купіць ня дорага.

Маючы ўгнаеньне, мы будзем мець і корм, а калі будзе корм, то будзе і скаціна.

Селянін Т. Апет.

---

# Як пасевам шкодзяць мушкі.

**Нашаму збожжу галоўным чынам шкодзяць тры мушкі—швэцкая мушка, гэсенская мушка і мушка зялёнавочка. Яны часта зьніжаюць ураджай на пяць—дзесяць пудоў з дзес.**

Кожны селянін добра ведае, якую шкоду яго пасевам наносяць сусьлікі, мышы, чуў ён таксама пра напасьць ў паўднёвых старонках саранчы, якая цалком руйнуе пасевы на палёх і тым самым выклікае голад у тых мясцох, але нічога ня ведае пра шкоднікаў, якія псуюць яго ўласныя пасевы з году ў год...

На беларускіх палёх ёсьць шмат шкоднікаў, праўда, невялікіх, як саранча, але шкода ад іх вялікая. Ня раз селяніну даводзілася бачыць такія зьявішчы: пажоўк ліст на расьлінцы, завяў сьцебялёк і г. д. Звычайна, селянін тлумачыць гэта нядобрым надвор'ем. Не заўсёды магчыма шукаць разьвязку гэтаму ў надвор'і. Калі высьвятліць ўсебакова гэта пытаньне, то ўбачым, што ў гэтай галіне шкодныя кузуркі маюць не апошнюю ролю.

Ва ўмовах Беларусі мушкі на збожжы заўсёды шкодзяць, а ў іншыя гады ўраджай ад іх падае блізка на палову і больш.

Што-ж такое за мушкі, і як яны выглядаюць? Збожжавыя мушкі гэта невялікія кузуркі і па велічыні іх можна параўняць з мушкарой ці з дробнымі камарыкамі, якія сустракаюцца на балоце. У лік шкодных мушак мы адносім *швэцкую мушку, гэсенскую мушку, і мушку зялёнавочку*.

Ад гэтых шкоднікаў селянін кожны год не дабірае звычайна на 5—10 пуд. збожжа з аднэй дзесяціны, а то і больш.

*Швэцкая мушка* маленькая, чорнага колеру, бліскучая. Жыве яна ў пасевах. Яечкі кладзе, галоўным чынам, за плевачку ліста зусім маладой расьліны. З яечка выходзіць чарвячок (*лярва*), які ўядаецца ў сярэдзінку сьцябла і паядае зачатак коласу. З гэтай прычыны сярэдні ліст вяне і жоўкне, а затым вяне і астатняе лісьце. З гэтай прычыны прападае усё сьцябло. Па характару шкоды (завяданьне сярэдняга ліста) без памылкі можна прызнаць швэцкую мушку. Калі ня будуць гэтым шкоднікам заражаны ўсе сьцяблы, то расьліны быццам ачуняюць—расьліна становіцца зялёнай і расьце, як непашкоджаная. Але гэта ня зусім так. Шкода пачуецца ўвосень, калі будуць здымаць

ураджай. Справа ў наступным: на месцы пажоўклага сьцябла ў пашкоджанай расьліны вырастаюць новыя сьцебялькі, а яны позьняцца ў росьце, і тым самым не даюць задавальняючага ўраджаю, асабліва ў гады дрэннага надвор'я. Швэцкая мушка шкодзіць ячменю, пшаніцы, жыту і аўсу.

*Мушка зялёнавочка* таксама вялікі шкоднік. Яе шкоду добра ведае кожны селянін: ён ня раз бачыў на сваіх палёх каласы, якія засталіся ў заварочаным лісьце. Чаму ня выкалашваецца колас? Таму што лярва гэтага шкодніка жыве пад коласам на сьцябле і выядае яго, і тым самым не дае коласу патрэбных дзеля яго разьвіцьця сокаў. З гэтай прычыны зярняты не разьвіваюцца, а калі разьвіваюцца, то ў нязначным ліку і прытым шчуплыя. *Зелёнавочка шкодзіць*, галоўным чынам, *ячменю і яравой пшаніцы*.

*Гэсенская мушка* сустракаецца на Беларусі менш, чым першыя два шкоднікі, але ў некоторых мясцох (як б. Рагачэўскі павет) ў мінулым годзе яна там нанясла значную шкоду.

Шкода яе састаіць у тым, што лярва высмоктвае сьцебялёк пад лістом. Сьцебялёк з гэтай прычыны становіцца кволым і ад невялічкага ветра падае на зямлю. У такіх выпадках, здаецца, што поле быццам патаптала скаціна. Шкодзіць гэсенская мушка, галоўным чынам, пшаніцы, хоць сустракаецца яна і на жыце.

Усе зазначаныя шкоднікі, як мы азнаёміліся, могуць вельмі шкодзіць. Ці магчыма барацьба з імі? Вядома, магчыма, і вось якая.

Перш за ўсё селянін павінен імкнуцца да таго, каб вясною, як мага раней, высеяць зярняты, затым што пасевы познага часу заўсёды зьяўляюцца значна пашкоджанымі. Гэта адносіцца да ярыны. З азімымі наадварот—сьпяшацца нельга; і трэба, як мага больш, адцягнуць час сяўбы.

Сорт таксама мае значную ролю: адны сарты больш шкодзяцца, другія менш.

Усё гэта спэцыяльныя спосабы барацьбы са шкоднымі мушкамі.

Ня трэба забываць, што культурныя агранамічныя мерапрыемствы, як палепшаная апрацоўка зямлі, правільны шматпольны севазварот, раньнія папары маюць значную ролю ў зьмяншэньні шкоды ад гэтых шкоднікаў. Гэтыя мерапрыемствы даюць магчымасьць разьвівацца расьліне лепш, і тым самым ствараюцца добрыя ўмовы дзеля расьлін ў змаганьні са шкоднікамі.

Гэта апошняе зьяўляецца агульным правілам дзеля барацьбы амаль што з усімі шкоднікамі з мэтай аховы расьлін.

**Б. Бранцаў.**

Белар.
с/г. Акадэмія.

# СЯЛЯНСКІ ДОСЬЛЕД

## Гадуйце насеньне чырвонае канюшыны.

Хто з гаспадароў у гэтым годзе пасеяў канюшыну, трэба, каб той пакінуў хоць невялічкі кавалак яе на насеньне. Кожны руплівы гаспадар павінен гэта запамятаць затым, што купляць насеньне канюшыны ня кожны зможа, яно дарагое, і апрача таго, купляючы, ня ведаеш ці ўсхожае яно, наколькі падыходзіць да нашых умоў, ці шмат мае насеньня сарнякоў і інш.

Цяпер я скажу некалькі слоў, як атрымоўваем мы ў сваёй гаспадарцы насеньне канюшыны. У першы год, калі канюшына пачне красаваць, мы косім яе на корм жывёле ўсю і атаву косім на сена. Частку-ж атавы, выбраўшы месца, дзе менш сарнякоў і дзе яна наогул лепшая, пакідаем на насеньне. Косім насенную атаву тады, як толькі пасьпеюць галоўкі і зьбіраем, калі яна прасохне. Прасушаную перавозім да дому, складаем дзе-небудзь пад страхою на жэрдках і пакідаем да маразоў. На марозе канюшына добра высахне і лёгка вымалачваецца. Малоцім на малатарні і перавеяўшы адбіраем цэлыя галоўкі, якія перасушваем на сонцы ці на цёплай печы і зноў перамалачваем. Насеньне атрымоўваецца ўсхожае, без сарнякоў.

Канюшына мае вялікае значэньне ў гаспадарцы. Яна дае добры корм для жывёлы, паляпшае глебу, пасьля яе добра родзяць жыта, лён і іншыя расьліны. Каровы ад канюшыны павялічваюць удоі малака і даюць больш гною, што таксама вельмі важна на нашых пескавых глебах.

Сарачынава, Меншчына. **Сел. У. Карнейчык.**

---

## Як асыпаць бульбу.

*(З практыкі).*

Асыпаньне бульбы большасьцю сялян робіцца ня так, як трэба; некаторыя ня ведаюць, калі і як асыпаць бульбу.

Карысьць ад асыпаньня бульбы заключаецца ў тым, што да сьцяблоў бульбы прысыпаецца пульхная зямля; у гэтай прысыпанай зямлі бульба разьвівае новыя падземныя сьцяблы, на якіх далей вырастаюць бульбіны.

Такім чынам, асыпаньне павялічвае колькасьць пульхнай зямлі. З усяго гэтага можна сказаць, што асыпаньне прыносіць шмат карысьці, але яго трэба спаўняць умеючы. Нельга асыпаць бульбу ў сухую пагоду, бо калі зямля прасохне і яе прысыпаць да сьцяблоў бульбы, дык у ёй кепска будуць разьвівацца падземныя сьцяблы і карэньні Знача, асыпаць бульбу трэба толькі ў сырую пагоду. У мяне ў 1922 годзе з бульбаю вышаў цікавы выпадак, які сьведчыць, што нельга асыпаць бульбу ў сухую пагоду. Далей бульбу ня трэба асы-

пацьадразу глыбока, а паступова. Пасьля асыпаньня на поле пасылаюцца падросткі, каб яны апраўілі засыпанае лісьце і сьцяблы бульбы.

Першае асыпаньне трэба рабіць тады, калі сьцяблы бульбы паднімуцца да 4 вярш. Другое асыпаньне рабіць тыдні праз два, а трэцяе перад красаваньнем. Толькі так асыпаючы бульбу, гаспадар атрымае найбольшы ўраджай, што для беларускага гаспадара вельмі каштоўна.

Селянін С. Сялюкін.

---

# Умей скарыстаць кожны кавалак зямлі ў садзе.

(*З практыкі*)

**Зямлю ў садзе трэба займаць капустай, буракамі або ягаднікамі.**

Усякі рашчотлівы гаспадар ня раз задаваў сабе пытаньне, як скарыстаць зямлю паміж дрэў у садзе, пакуль дрэвы яшчэ малыя і не зацяняюць зямлю?

Пакуль дрэвы ў садзе разрастуцца і пачнуць даваць плады (гэта бывае праз 8-10 год пасьля пасадкі) паміжрадзьдзі трэба скарыстоўваць такімі расьлінамі, якія прыносяць даход з першага году. Калі гэтыя расьліны будуць расьці ў садзе, то зямля ўвесь час будзе пульхнай. Займаць зямлю паміж садовых дрэў можна каля 10-15 год. Такімі расьлінамі могуць быць гародныя расьліны і ягадныя кусты. Ягаднікі блізка ад рынку ці гораду могуць даваць значны даход, бо ўраджай іх бывае кожны год. Акрамя гэтага, ягадныя кусты будуць затрымоўваць сьнег, які вельмі патрэбен саду.

У садзе нельга сеяць люцэрны, ці наогул залужваць глебу; у такім садзе дрэвы будуць расьці слаба і будуць хварэць. Ад правільнага скарыстаньня паміжрадзьдзяў у садзе залежыць і яго добры ўраджай. Калі-ж паміжрадзьдзі ў садзе скарыстоўваюць абы як, дык гэтым мы толькі пашкодзім сабе, бо спынім рост дрэў і карысьці ад саду ня будзе.

Я маю невялічкі сад, усяго 42 дрэвы, але ён у мяне вельмі добра пасаджаны. Дрэвы садзяць на 4 саж. адно ад другога. Кожную вясну я ачышчаю на іх мох і абмазваю вапнай з кароўім калам. Паміжрадзьдзі я займаю толькі *буракамі, капустай, бульбай і невялічкі кавалак кустамі парэчак.*

Далей апішу, як я ўзгадаваў свой сад і які даход ён мне дае.

Селянін С. Сялюкін.

---

# Як зьвёў я сажу.

(*Хут. Шмакі, Чачавіцкі раён, Магілеўшчына*).

Да 1925 году я ня ведаў, як зьвесьці ў збожжы галаўню ці сажу. Я лічыў, што калі ячмень ці пшаніца закаласуе, то відаць, дзе каласы заражоныя галаўнёю; я іх зрываў і такім чынам спадзяваўся зьнішчыць заразу. Але гэты спосаб не апраўдаў сябе. Раз я прачытаў кніжку „Сам сабе аграном“ (№ 9), дзе было апісана, як весьці барацьбу з га-

лаўнёю—гэта пратручваньнем насеньня формалінам перад самай сяўбой. Вясной 1925 г. я купіў бутэльку формаліну і разьвёў яго ў боцы з вадой вёдзер на 12. Насеньне рассыпаў па кучках і давай паліваць; праз некаторы час праветрыў і прасушыў у цяньку, а потым пасеяў. Калі стаў каласаваць ячмень, а потым і пшаніца, я пашоў на поле падзівіцца: я ня ўбачыў і каласка з галаўнёй. У гэтым годзе я таксама пратруціў проса, авёс і пшаніцу, дзе яшчэ прыкмячаў галаўню. Вось чаму я клічу ўсіх сялян на барацьбу з галаўнёю.

Сел. М. Савіцкі.

---

# Не пасеце кароў на сенажаці рана вясною.

*(Вёска Шмакі, Чачавіцкі раён, Магілеўшчына).*

**Ня трэба з вясны на сенажаці пасьвіць скаціну, тады сена будзе ў два разы больш.**

Дрэнна прыходзілася нашым сялянам вясною. Усе чакалі, што вось-вось прыдзе вясна, а яе няма і корм патрэбен. Так біліся з году ў год, пакуль не ўзяліся за розум. Раней бывала яшчэ не пасьпее высахнуць сенажаць, як сяляне выганяюць туды сваю жывёлу і пасуць аж да сёмухі, г. зн. пасуць у той час, калі выпадае шмат дажджоў і трава набірае сілы, каб расьці. Пакуль прыдзе сёмуха, сенажаць робіцца голая, хоць куляй пакаці. Пасьля-ж таго, як пакінуць ганяць скаціну на сенажаць, трава ўжо дрэнна расьце, бо патрэбных дажджоў у гэты час выпадае мала. Каля Пятрова дня ўжо ідуць касіць сенажаць, і праўда, *лёгка касіць, бо трава маладая. Але вясною становіцца цяжка, бо няма сена* і жывёла рыкае. Каб вылезьці з бяды, у 1923 годзе парашылі ня пусьціць на сенажаць жывёлу з самай вясны, а адвялі для гэтага балота. Нанялі вартаўніка, каб ён наглядаў за чужой жывёлай. Ходзяць сяляне і ціснуць плячыма, дзівяцца і радуюцца, гледзячы на сенажаць, дзе была вельмі густая траўка, асабліва дзятліна.*) Не дачакаліся сяляне вёскі Шмакі Пятрова дня і за два тыдні да яго пашлі касіць. Цяжка, касы не адцягнуць. Адзін кажа, што сена будзе ўдвайне, другі—утрайне. Пакасіўшы траву пусьцілі туды жывёлу, а на балоце за гэты час вырасла добрая трава, хоць касі. Сенам усе былі забясьпечаны. З тэй пары ў кожнага хапае сена і вясною. Цяпер няма той думкі ў селяніна, каб вясною пасьвіць жывёлу на сенажаці; усе зразумелі карысьць, калі на сенажаці ня пасьвіць. Вось як Шмакаўцы пазбавіліся ад бяскорміцы і раяць зрабіць гэта і другім.

По даручэньню сялян вёскі
Шмакі напісаў селянін **Я. Савіцкі.**

---

*) **Увага:** Сенажаць наша заліўная, знаходзіцца каля рэчкі Друць, якая ўпадае ў Дняпро ў Рагачэве.

# САДОЎНІЦТВА

## Садаводу ня страшна сухая вясна.

**Суш у траўні і пачатку чэрвеня ня шкодзіць садоўніцтву Беларусі. Красаваньне садоў у сухую вясну абяцае добры ўраджай садовіны.**

З пачатку і да канца траўня (V мес.) у нашым Горацкім раёне ня было дажджу. Апошнія 2 тыдні было вельмі цёпла. У дзень даходзіла да 22° па Ц. Ня гледзячы на недахоп вільгаці, дзічкі-аднагодкі, якія засталіся на месцы, падцягнуліся да 30 траўня на 100-150 проц. Дзічкі, якія летась заселі на 3-м вяршку, нагналі да 7-8 вярш. (за 1 месяц).

Прышчэпкі-аднагодкі шпарка пашлі ў рост. Вочкі леташнія на дзічках, пасьля раньняй падрэзкі на шып, у канцы траўня далі 3—4 вяршкі ўзросту.

Нашым садаводам трэба заўважыць, што па досьледах Горацкай станцыі лепш абрэзку дзічкоў на шып (на пянёк) рабіць у апошнія дні красавіка (IV мес), а дзеля Случчыны і Мазыршчыны магчыма і да 15 красавіка. Словам, ня трэба пазьніцца з гэтай работай у выхавальніку, бо леташнія завачкованыя пучкі доўга ня рухаюцца ў рост, калі абрэзка на шып зроблена позна. Ужо 28 траўня культурныя галінкі завачкованых дзічак падцягваліся мачалкай да шыпа.

Сьлівы сёлета пачалі красаваць у Горках 15 траўня (на 10 дзён пазьней леташняга). Ігрушы цьвілі 18-21 траўня, яблыні 20-28 траўня. Сёлета надзвычайна багата красавалі ігрушы (летась зусім слаба). Неспадзявана добра красавалі яблыні, нават тыя дрэвы, якія цьвілі летась.

Пагода дзеля росквіту пладовых дрэў у нашым раёне і, здаецца, па ўсёй Беларусі, была сёлета спрыяючай.

Паміж шкоднікаў садоў першае месца займае кведкаед (Anthonomus pomorum). З ім трэба змагацца. Зьвяртаемся праз рэдакцыю „Плуга“, каб нашы спэцыялістыя больш пісалі аб гэтым шкодніку, а нашым сялянам трэба прымаць магчымыя крокі, каб зьнішчыць у сваіх садох кведкаеда, бо ад гэтага штогод гіне да 30 проц. ураджаю пладоў Беларусі.

Прымаючы пад увагу цёплы і сонечны травень з сярэдняй тэмпэратурай для Горак 12,5, Горацкая дасьледчая садовая станцыя праканалася, што лепшай парой дзеля пасадкі дзічак у выхавальнік і дрэў у сад, будзе раньняя восень, альбо раньняя вясна.

Сёлета да 1 траўня высаджана каля 12.000 дзічак у выхавальнік. Садзіць трэба было ў цяжкіх варунках, бо глеба была вельмі „цясьцянай“. Але хутка палеткі падсохлі і 10-12 траўня можна было пусь-

ціць конныя прапашнікі. 10 траўня высаджаныя дзічкі пачалі распускаць пучкі, а да 28 ўжо выцягнуліся новыя галінкі ў 3 вярш.

Падкрэсьлім, што дзеля выхавальнікаў конныя прапашнікі („плянэт") вельмі каштоўная прылада. За травень прапашнік у 2 тэрміны прашоў па 2 разы. Ня гледзячы-ж на сухмень, на 3-м вярш. было досыць вільгаці.

Сёлета мы скасавалі „зялёную пікіроўку" сеянцаў у траўні ў сувязі з сухменьню і ў сувязі з тым, што травень ня спрыяе гэтаму ў варунках Беларусі і Украіны.

Пры помачы рэдкіх пасеваў мы дасягнулі на граду (у 30 арш. даўжыні і $1^1/_2$ арш. шырыні) высяваць толькі $^1/_2$ фун. насеньня яблыні ў радкі (на 4 вярш. адлегласьці).

31 траўня пасьля значнага дажджу, пры помачы добрай (вострай) ангельскай лапаты (малой) пачалі пад зямлёй падразаць карэнчыкі сеянцаў гэткім чынам, каб ў зямлі пазаставаліся карэнчыкі ня больш $^1/_2$—1 вярш. даўжыні (гэткую велічыню мы знайшлі летась шляхам досьледаў).

Калі на працягу 2-3 дзён ня будзе дажджу, прыдзецца грады паліваць. Леташнія досьледы ў гэтым напрамку далі добрыя вынікі.

Буйнаплодная суніца, высаджаная ў верасьні 1925 г., добра прынялася. Ужо з 25 траўня моцна цьвіце „Рошчынская", „Вікторыя" і г. д. *)

Наогул, трэба падкрэсьліць, што пры *сваячасным пасадцы прышчэп, дзічак, пры добрым доглядзе за глебай, ужываючы ўгнаеньне і г. д., нашаму садоўніцтву ніколі ня будзе шкодзіць сухмень у траўні і пачатку чэрвеня.*

**М. Бурштэйн.**

---

# Ці ня многа антонаўкі мы садзім?

**Антонаўка дрэнна перахоўваецца і к вясне большая частка ўраджаю гніе. У нашых садох антонаўкі даволі і 35%.**

У прамысловым садзе, дзе плады галоўным чынам ідуць на продаж, правільны падбор сартоў мае вялікае значэньне. Правільны падбор сартоў—палавіна посьпеху.

У нашых садох год 60-70 таму назад амаль ня было такіх сартоў, якія мелі рыначную вартасьць. Гэтыя сады давалі толькі плады для сваёй патрэбы.

З разьвіцьцём садоўніцтва, сад павінен быў ня толькі забясьпечваць пладамі гаспадарку, але і прыносіць даход. У гэты час пачалі зьяўляцца прамысловыя сарты і паміж імі ў першую чаргу антонаўка. У старых садох яна складала толькі некалькі працантаў, а цяпер ня цяжка паказаць сады, дзе антонаўцы адведзена 80-90% агульнага ліку дрэў.

Такое пашырэньне антонаўкі залежыць ад яе добрых якасьцяй.

1) Дрэва антонаўкі добра пераносіць усе неспагаднасьці нашых зім.

2) Драўніна яе цьвёрдая, а затым і менш ломіцца пад цяжарам ураджаю.

---

*) З жніўня—верасьня г. г. Горацкая дасьледчая станцыя будзе распаўсюджваць трывалыя і каштоўныя сарты гародных суніц паміж сялян.

3) Ураджай пладоў бывае вельмі вялікі.

4) Плады яе хоць не такія смачныя, але за тое маюць вялікі попыт на фабрыках дзеля перапрацоўкі.

Побач з гэтым, антонаўка мае і два адмоўныя бакі; плады яе лёгка паражаюцца паршою і другое, самае галоўнае плады яе ня могуць доўга захоўвацца.

У цэнтральных раёнах СССР антонаўка захоўваецца лепш і тыя плады, якія можна бачыць у Маскве ў сакавіку, красавіку, напэўна належаць да больш паўночных раёнаў, чым Беларусь. Магілеўская антонаўка к студзеню дае да 50% згніўшых і падгніўшых пладоў. К лютаму процант гэты павышаецца да 65, а к сакавіку даходзіць да 75-80. Гэта прымушае прадаваць антонаўку з восені, калі рынак завалены пладамі. Гандляр добра ведае, што антонаўка доўга ляжаць ня можа і плаціць за яе мала. Вось як хісталася цана ў 1925 годзе ў залежнасьці ад часу; увосень за п. ябл. плацілі 45-60 к.; у студзені 1 р.—1 р. 50 к.; у лютым 1 руб. 50 к.—2 р. 50 к.; у сакавіку 3 р. 50 к.—5 р. У красавіку гэта цана была яшчэ большая. Ня цяжка бачыць, што ня гледзячы на такое павялічэньне цаны, трымаць антонаўку ўсё-ж ня сходна. Калі да сакавіка цана паднялася ў 6-7 разоў, то к гэтаму часу прадажнай антонаўкі засталося $1/5$—$1/6$ частка ўсяго ўраджаю.

Кожная краіна вывела ў сябе галоўны прамысловы сорт. У Францыі—белы зімовы кальвіль; у Ангельшчыне—пэпін Рыбстона; у злучаных Штатах Амэрыкі—пэпін Ньютона. Усе гэтыя сарты могуць доўгі час захоўвацца. На Лёнданскім рынку прывозны з Амэрыкі пэпін Ньютона прадаюць аж да новага ўраджаю. Зусім не выпадковае зьявішча, што ўсе гэтыя прамысловыя сарты добра захоўваюцца.

Адзначаныя недахопы антонаўкі не даюць ёй права лічыцца *ідэяльным* добрым *прамысловым сортам у нашай мясцовасьці*, а затым на кожным пладаводзе ляжыць абавязак сур'ёзнае спробы іншых сартоў, якія, маючы ўсе добрыя якасьці антонаўкі, ня мелі-б яе недахопаў.

Тут трэба адзначыць, што гэта заданьне ня лёгкае. Дзеля таго, каб добра вывучыць той ці іншы сорт, патрэбна некалькі дзесяткаў год. Толькі за такі час могуць выявіцца ўсе добрыя якасьці і недахопы сорту. Пэўна гэтай цяжкасьцю можна тлумачыць, што асортымэнты, якія раяцца для данай мясцовасьці, часта няправільна складзены. Ня маючы магчымасьці добра растлумачыць гэта пытаньне на старонках часопісі, пакажу, што нават у такой сур'ёзнай працы, як „Руководство по плодоводству для практиков“ Гоше на 152 стар. аб заходнім пладовым раёне сказана: „Пераважным сортам яблык зьяўляецца антонаўка і апорт, да якіх далучаюцца яшчэ ў Магілеўскай губ. цітаўка, манастырка, далей мядунічка, карбоўка і інш“. Перш за ўсё для пладаводзтва апорт у нас не зьяўляецца пераважным сортам. Далей, апорт і манастырка—гэта адно і тое, таксама як мядунічка і назва аднаго і таго-ж сорту, а аўтар з двух сартоў зрабіў чатыры самастойныя сарты. І гэта ў сур'ёзным падручніку.

У маім матачным садзе было пасаджана каля 75 сартоў яблын. Шмат з іх згінулі ад кліматычных неспагаднасьцяй і гэтым паказалі сваю няпрыгоднасьць для данага раёну. Многа з іх расьлі, але не апраўдалі надзеі. За тое хоць ня многія з іх могуць быць цэнным укладам для шырокага размнажэньня ў нашай мясцовасьці і нават па ўсёй Беларусі. Сарты гэтыя такія; 1) *Бель курская* (дзякуючы вядомаму садаводу Мічурыну больш вядома пад назваю антонаўка паўтарафун-

товая), 2) *бабушкіна,* 3) *курскі залаты ранэт* і 4) *вялікае бабовае.* Бель курская можа ляжаць такі час, як і антонаўка, але дзякуючы велічыні пладоў і асабліва афарбоўцы, вельмі высока цэніцца на сталічных рынках. У мінулым годзе пры цане на антонаўку 6-8 руб. за 3 пуды, за бель курскую плацілі 12-14 руб. Дрэва вельмі ўраджайнае і добра пераносіць нашу зіму.

Плады-ж сартоў бабушкіна, Курскага залатога ранэту і асабліва вялікага бабовага могуць ляжаць доўгі час.

Досьлед з гэтымі сартамі ў бягучым годзе даў такія вынікі: к 15 сакавіка антонаўка дала 15% здаровых яблык, бабушкіна 70, Курскі залаты ранэт 78% і вялікае бабовае 97%. Апошні сорт пры самым простым захаваньні можа ляжаць да чэрвеня-ліпеня месяца. Курскі залаты ранэт, апрача таго, што доўга можа ляжаць, яшчэ мае і тую перавагу, што плады яго моцна трымаюцца на дрэве. У мінулым годзе к часу здыманьня антонаўка дала каля 50%ападу; Курскі залаты ранэт на 34 пуды здыманых яблык (ураджай двух дрэў) даў усяго паўтара пуды пададу, г. зн. менш $4^1/_2$%.

З сваіх нагляданьняў магу прапанаваць такі асортымэнт для пасадкі ў прамысловым садзе:

1) антонаўка звычайная*) . . . . 35%
2) Бель курская . . . . . . . . 20%
3) Бабушкіна . . . . . . . . 15%
4) Курскі ранэт . . . . . . . . 12%
5) Бабовае . . . . . . . . . . 7%
6) Бела-салодкае (цукр. літ.) . . 5%
7) Пуцімка . . . . . . . . . . 3%
8) Пэпін літоўскі (крымка) . . . 3%

Вядома, я ня лічу прапанаваны мною асортымэнт найлепшым, але разам з тым упэўнены, што ўсякі паслухаўшы мяне, ня будзе шкадаваць, бо гэты асортымэнт зьяўляецца вынікам 30 гадовага майго нагляданьня пры разуменьні і тэй адказнасьці, якую я прымаю за яго на сябе.

Аграном-садавод **І. Пратасэвіч.**

---

*) Прапануючы антонаўку звычайную, я не кажу пра антонаўку-камянічку. Справа ў тым, што я ня ўпэўнены ў яе існаваньні, як аддзельнага сорту ня гледзячы на тое, што аб ім пішуць у шмат якіх падручніках.

# ПЧАЛЯРСТВА

## Як вядуць пчалярства браты Рагалевічы.

*(Вузьдзенскі раён, Меншчына).*

**Рагалевічы-сяляне, а пчалярствам займаюцца ўмела і культурна. У іх навучылася пчалярству шмат сялян-суседзяў.**

Пчэльнік братоў Рагалевічаў знаходзіцца ў старым пасёлку „Ясень“ (Вузьдзенскі раён, Меншчына), што ў 8 вярст. ад мяст Вузды. Пчэльнік знаходзіцца ў старым садзе, які абаронены з усіх бакоў ад ветру. Цяпер пчэльнік мае 80 вульлёў, але гадоў 5-6 таму назад было каля 150. Існуе ён прыблізна з 1901-2 г.

Браты Рагалевічы пісьменныя, а сярэдні з іх скончыў нават гарадзкое вучылішча. Акрамя пчэльніка яны маюць добрую культурную гаспадарку (24 дзес. сенапахаці). Гаспадарка братоў Рагалевічаў ня дзеліцца паміж імі, ня гледзячы на тое, што два браты даўно жанаты і ўся сям'я складаецца з 10 душ. Работы на пчэльніку вядзе старэйшы брат Уладыслаў. Трэба адзначыць, што ўвесь пчэльнік збудаваны пад кіраўніцтвам Уладыслава. Уладыслаў Рагалевіч абучаўся пчалярству два гады (1899 і 1900) у быўшым маёнтку Касмовічы, Слуцкага павету, у нейкага Мысьліцкага. Акрамя таго, гадоў пяць перад вайною ён выпісваў польскую часопісь „Bortnik“, што выдавалася ў г. Львове вядомым пчаляром Цэсельскім. Загэтым Рагалевіч і цяпер гаворыць, што ён вядзе пчалярства па сыстэме Цэсельскага, у рамовых вульлях.

Відаць, што гэты вучоны пчаляр праўды зрабіў уплыў на Рагалевіча. Усе вульлі пчэльніка Рагалевічаў галіцыйскага тыпу, з глухім верхам і нізам. Рамкі ўсе аднолькавага разьмеру (шырыня 23 см., а вышыня 48 см.). Кожная рамка можа зьмясьціцца ў любым вульлі, што важна пры даходным пчалярстве. Саламяныя сьценкі вульля маюць таўшчыню ў 10 см. Па досьледах Рагалевіча вульлі гэтыя вельмі цёплыя, дзякуючы чаму ўвесь пчэльнік зімуе на дварэ бяз ніякага урону. Напрыклад, апошнія дзьве зімы перазімавалі ўсе. Вульлі робяцца ў сваёй гаспадарцы зімою і ўласнымі рукамі, дзеля чаго Рагалевічы маюць станок для пляценьня саламяных мат на сьценкі вульля і варстак. Такі саламяны вулей каштуе 7—8 руб. Усіх рамак у вульлі адзінаццаць, але на зіму пакідаецца 6—8, прымаючы пад увагу сілу пчалінае сям'і. Вага рамкі з поўным заносам мёду каля 10 фун.

У час найбольшага мёдазбору, які бывае пры красаваньні грэчкі, ліпы, а то і перад ліпай, вульлі сільных сем'яў дзеляцца асаблівай дошкай на дзьве часткі: гняздо і магазын. У дашчатай перагародцы ёсьць асаблівая мэталёвая кратка (*ганеманаўская кратка*), праз якую слабодна праходзяць пчолы, але ня можа па сваёй большай велічыні праходзіць матка.

Для вырабу кратак у Рагалевіча ёсьць асаблівая машынка. Цяпер вядома, што гняздо служыць для расплода сям'і, а магазын для ад-

кладкі мёду. У гнязьдзе звычайна бывае 6—7 рамак, а ў магазыне 4-5 рамак. Цікава тое, што ў час аддзяленьня магазыну, старыя маткі Рагалевічам вылаўліваюцца і забіваюцца, як малапрыгодныя к далейшай рабоце, а маладыя адгараджваюцца ў гнязьдзе. Па досьледах Рагалевіча маткі старэйшыя двух год вельмі рэдка бываюць працаздольныя. Але на яго пчэльніку ёсьць 10 матак 3-х гадовага ўзросту. Па думцы Рагалевіча тыя маткі, якія і ў трэці год працаздольны, могуць жыць і добра працаваць да 5 год. Маткі-тругоўкі на пчэльніку Рагалевіча бываюць рэдка: яны вылаўліваюцца і зьнішчаюцца, а замест іх даюцца маладыя маткі ці гатовыя матачнікі.

*Раеньне.* Раеньне на пчэльніку Рагалевічаў практыкуецца толькі штучнае. Час раеньня залежыць ад некалькіх прычын: ад зімоўкі пчол, ад пагоды, ад мёдазбору і г. д. Звычайна раеньне праводзіцца ў канцы чэрвеня ці ў пачатку ліпеня. Найбольш пашыраны спосаб раеньня—гэта дзяленьне гнёзд. Робіцца гэта так: з старога моцнага гнязда бяруцца дзьве рамкі з пчоламі, чарвой і старой маткай, якія пераносяцца ў новы, тут-жа прыгатаваны вулей. Сюды дабаўляецца яшчэ 4-5 рамак з гатовай сухой вашчынай. У старым вульлі застаецца амаль палова пчол і вашчына з аднаднеўнымі ці двухднеўнымі яечкамі. Абодва вульлі адносяцца ад старога месца на аднолькавую адлегласьць—прыблізна на паўтары-два сажні і ставяцца ў тым напрамку, у якім стаяў і стары вулей. Пчолы, не знашоўшы ў старым вульлі маткі, зараз-жа закладваюць сабе матачнікі. На дзевяты дзень вулей аглядаюць і ўсе матачнікі, акрамя аднаго, выразаюцца; гэта робіцца дзеля таго, каб пчолы болей не раіліся. Непатрэбных матачнікаў часта бывае вельмі шмат (ад 10 да 30 штук).

Гэткім спосабам Рагалевіч кожны год адводзіць 10-12 раёў, якія заўсёды добра ўдаюцца. Натуральных раёў зусім ня бывае, бо своечасова вырэзваюцца непатрэбныя матачнікі.

У меру вопыта Рагалевічам практыкуецца продаж штучнык раёў, іншы год іх прадаецца да 10.

*Мёдазбор.* Па ліку пчаліных сем'яў відаць, што Рагалевіч вядзе не раёвую, а мядовую гаспадарку. Бяда толькі ў тым, што мясцовыя ўмовы ня вельмі спрыяюць мёданосам, асабліва ў апошнія гады. Тлумачыцца гэта тым, што пасёл. «Ясень» мае даволі багата нізін і калі ўзяць яшчэ сырыя дажджлівыя гады, дык зразумела, што мёданосу яны спрыяюць мала. Галоўны мёдазбор бывае з белай канюшыны, грэчкі і ліпы, а ў апошнія гады назіраецца, што засевы белай канюшыны зьменшыліся. У мінулым годзе ў сярэднім кожны вулей даў 10-20 ф. мёду, а некаторыя сем'і давалі да 30 фун. Былі гады, напрыклад 1912 і 1924, калі Рагалевічы даставалі па пуду мёду амаль з кожнага вульля. Але бывалі гады, што пчолы не забясьпечвалі і сябе мёдам на зіму (1925 г.), калі для ўсяго пчэльніка з восені прышлося купіць 16 пуд. цукру. Для большага прыбытку ад пчол неабходна сеяць мёданосныя травы. У гэтым годзе Рагалевічам ужо пасэяна насеньня 50 грам фацэміі і 50 грам сіняка.

На пчэльніку Рагалевічаў ёсьць усе патрэбныя пчалярскія прылады. Ёсьць свая цэнтрафуга (мёдагонка) для адгонкі мёду. Дзякуючы гэтаму на пчэльніку заўсёды маецца запас чыстай сухой вашчыны. Вашчына перахоўваецца на вышках у сухім месцы, застаўляецца ў магазыны ў час найбольшага мёдазбору.

*Зімоўка пчол.* Для зімоўкі пчол пакідаецца ў кожным вульлі 6-7 рамак і мёду 25-30 фун. Але пры познай вясьне часта здараецца,

што гэтага мёду не хапае і тады прыходзіцца даваць падкормку; даецца мёд ці цукар. У выпадку падкормкі цукрам, робіцца цукровы раствор (2 фун. мёду на 1 фун. вады). Цікава тое, што Рагалевіч ў сярэдзіне зімы ўжо ведае, якія сем'і трэба падкармліваць, а якія не. Усе вульлі зімуюць на дварэ бяз пакрыцьця, толькі заранi добра аглядаюцца і ацяпляюцца. У час зімоўкі, асабліва на прадвесьні, заўважана, што пчолам шкодзяць сініцы, якія стукаюць дзюбкамі па вульлі, каб устрывожыць і выклікаць пчол на двор, пасьля чаго і пачынаюць іх дзёўбаць.

Такім чынам, *пчэльнік Рагалевічаў мае рамовую сыстэму, практыкуе штучнае раеньне і наогул карыстаецца удасканаленымі прыёмамі ў пчалярстве.* Гэты пчэльнік мае значны ўплыў на пчалярства ўсяго раёну. Каля пятнаццаці чалавек (цяпер ужо пчаляроў) атрымалі належную практыку на пчэльніку Рагалевічаў. Пчэльнік братоў Рагалевічаў у Вузьдзенскім раёне зьяўляецца ў поўнай меры культурна-паказальным і заслугоўвае належнай увагі.

**П. Ляневіч.**

---

# Што піша аб пчэльніку Рагалевічаў інструктар па пчалярству.

Пчэльнік братоў Рагалевічаў заслугоўвае ўвагі, як культурная пчалярская гаспадарка ў Вузьдзенскім раёне. Але шкода, што гэта гаспадарка як-бы застыла ў сваіх формах. І гэта відаць з таго, што браты Рагалевічы не прымяняюць у сваёй гаспадарцы ніякіх другіх вульляў, акрамя ўстарэўшага вульля «Галіцэйскага тыпу з глухім верхам і нізам»; у гэтым вульлі ня можна бачыць усіх рамак адразу, нялоўка іх перасоўваць, калі гэта патрэбна, а таксама нельга дабіцца пчолам месца ў час галоўнага мёдазбору (пастаўкі паверх гнязда няма). З апісаньня т. Ляневіча ня відаць, ці ўжываецца на пчэльніку Рагалевічаў штучная вашчына. Разгараджваньне вульляў на гняздо і магазын *ганеманаўскай краткай* таксама пара ўжо адкінуць, бо гэта кратка псуе пчаліныя крыльлі. Было-б надта добра, калі-б браты Рагалевічы зацікавіліся Дадананаўскімі вульлямі і нават спрактыкаваліся-б зрабіць іх з саломы, прыстасаваўшы да гэтага свой станок.

Некалькі слоў аб раеньні і запасных матках. Калі пчаляр хоча, каб штучныя раі ў яго былі моцнымі і давалі даход, дык трэба старацца, каб пчол можна было дзяліць найраней: такія раі да пары галоўнага мёдазбору могуць распладзіць шмат пчалінай сілы і сабраць досыць запасаў сабе на зіму, а то і для пчаляра. Самае раеньне найлепш рабіць на гатовых матак, якіх ня цяжка здабыць на такім пчэльніку, як у Рагалевічаў. Лепш за ўсё дзеля гэтага адабраць матку ў адным з моцных вульляў. Пчолы пасьля гэтага закладуць шмат матачнікаў, якія праз 3-4 дні пасьля пячатаньня трэба паўстаўляць у матачныя клетачкі, або прыкрыць іх проста на рамках спэцыяльнымі клетачкамі („Веста“);па выхадзе матак трэба іх захоўваць у клетачках хоць-бы ў тым самым вульлі, адабраўшы самых лепшых. Далей даваць іх штучным раям і тым сем'ям, у якіх трэба зьмяніць старых матак новымі. Толькі ня можна доўга трымаць маладых матак няплоднымі, бо ад гэтага яны могуць стаць маткамі-трутоўкамі. Даваць матак трэба таксама асьцярожна, каб пчолы не забілі іх, пачуўшы чужы дух;

дзеля гэтага можна пратрымаць матку ў гэтай сям'е ў клетаццы дзень-два, а потым пыпусьціць у гняздо. Наогул-жа штучнае раеньне ня варта пакідаць на час галоўнага мёдазбору, бо ў выпадку няўдачы можа застацца мала часу на ўпарадкаваньне няўдалых раёў.

Але будзем спадзявацца, што такія практычныя пчаляры, як браты Рагалевічы, зацікавяцца новымі мэтодамі пчалярства, новай літаратурай па пчалярству і ўсё гэта правядуць на сваім пчэльніку і тым самым будуць вельмі карыснымі нашаму пчалярству, як і да гэтай пары.

**Л. Гаховіч.**

---

### Збор мёду па 4 акругах БССР у 1925 г.

| Акругі. | Колькі мёду ў фун. атрымана з аднаго вульля. | Увесь збор мёду ў пудох. | Збор воску ў пудох. | Збор чыстага мёду ў пудох. | Пашло мёду на падкорм 1 вульля. | Усяго пашло на падкорм у пуд. | Пашло вашчыны ў пудох. | Гандаль пчал. продукцыяй. | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | Прадана раёў. | Прадана мёду з воскам у пуд. |
| Калінін. . . | 31,7 | 16055 | 1032 | 9285 | 5,4 | 1557 | 113,9 | 18521 | 10317 |
| Мазыр. . . . | 22,7 | 10424 | 1558 | 8869 | 3,5 | 20 | — | — | 10424 |
| Менск. . . . | 22,7 | 1423 | 142 | 1281 | 3,7 | 232 | 5 | — | 1423 |
| Барыс. . . . | 21,8 | 709 | 71 | 638 | 3,4 | 111 | 0,7 | — | 709 |
| Усяго . . . | | 28611 | 2803 | 20070 | | 1920 | 119,6 | 18521 | 22873 |

# Жывёлагадоўля



## Як дрэнную карову я зрабіў малочнай і даходнай.

### Трэба карміць кароў з кармушак і па нормах.

Гаспадар я яшчэ зусім малады; вось загэтым мне прышлося не самому выгадваць карову, а купіць. Купіў-жа карову я не такую, якую хацеў, а якую дазволілі сродкі: маленькую і худую, якая важыла 12 п. 32 ф. і давала $1^1/_2$—2 фун. малака (карова была адзін месяц па ацяленьні). Купіў я яе перад вясною. Вясною яна пашла на пашу і прыбавіла малака да 5 фун., а вага прыбавілася на 24 фун. Прышла восень. Паставіў я скаціну ў хлеў і стаў карміць па нормах з кармушак, каб яна ня траціла марна корму. У сакавіку карова ацялілася і пасьля гэтага стала даваць 12 фун. малака. Я пачаў прыбаўляць корм на малако, а карова стала прыбаўляць малака. Праз два тыдні я правяраў яе жывую вагу і ўдоі малака. Урэшце карова важыла 20 п. 10 ф., а малака давала 20 фун. Я стаў яшчэ прыбаўляць спажыўнага корму, але карова малака ўжо не прыбаўляла. З гэтага часу прыбаўку корму я спыніў, каб карова не зажырэла і ня зьменшыла ўдоі. Такую норму я пакінуў і да вясны.

Як-жа ўсё гэта я рабіў? А так: праз кожны тыдзень павяраў жывую вагу каровы і вагу малака і даваў на кожныя 3 п. жывое вагі адну кармовую адзінку і за кожныя 3 ф. малака таксама адну кармовую адзінку. Цяпер мая карова важыць 20 п. і 16 ф., дае малака 20 фун. і атрымўвае такую норму:

| | | |
|---|---|---|
| 1. На падтрыманьне жыцьця даю | 7 | карм. адзінак. |
| 2. „ малако таксама | „ 7 | „ „ |
| Усяго | 14 | карм. адзінак. |

Яшчэ трэба зьвярнуць увагу, з якога корму гэта кармовая норма зложана.

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| 3 фун. | ільнянае макухі . . . | 4 | карм. адзінкі, кошт | 10 | кап. |
| 12 „ | добрага сена . . . . | 4 | „ „ | 30 | „ |
| 5 „ | яравой саломы . . . | 1 | „ „ | 4 | „ |
| 20 „ | буракоў і турнэпсу . | 3 | „ „ | 10 | „ |
| 10 „ | бульбы . . . . . . | 2 | „ „ | 10 | „ |
| | Усяго . . . . | 14 | „ „ | 64 | „ |

Хаця тут саломістага корму малавата (трэба было-б даваць фунтаў 20 на яе вагу), але за недастачай і гэта добра.

Урэшце я ад гэткага кармленьня маю замест ранейшых 12 пуд. 32 фунт. жывой вагі каровы 20 пуд. 16 фун. і замест 2 фун. малака 20 фун.

Другая мая карова павінна хутка ацяліцца. Важыць яна 23 пуды 16 фун. і дае 6 ф. малака. Яе норма такая:

| | | |
|---|---|---|
| на падтыманьне жыцьця | 8 | карм. адзінак |
| „ малако | 2 | „ „ |
| „ плод | 1 | „ „ |
| Усяго | 11 | „ „ . |

Гэта карова, калі я купіў, таксама важыла ўсяго 16 пуд., а цяпер яна важыць 23 п. 16. ф.

Такім чынам, я ад адной каровы маю 7 п. 14 ф. прыросту, а ад другой 7 п. 16 фун. На гэта могуць сказаць, што такі корм дарагі, а я скажу, што гэта самы дзяшовы корм і вось чаму: мая карова дае 20 фун. малака, гэта будзе 40 шклянак, па 3 кап. за шклянку, то выйдзе $40 \times 3 = 1$ р. 20 к., а трачу я на корм гэтай карове 64 кап. Такім чынам, мне застаецца прыбытку 56 к.

А мой сусед, напрыклад, корміць дзяшовым кормам (ня ведаю, колькі важыць яго карова, але на вока я так думаю пудоў 20); дае ён гэтай карове прыблізна 25 фун. яравой саломы, што каштуе 20 кап., а малака яна дае 2 фун. або 4-5 шклянак (няхай сабе 5 шклянак). Гэта дасьць $5 \times 3 = 15$ кап. а корм каштуе 20 кап.; убытак $20 - 15 = 5$ к., Але палічым ўсё гэта і з другога боку. Я на тыя грошы, што аддаю карове на корм (64 кап.), прадам 22 шклянкі малака і вярну іх, а 18 шклянак малака застанецца мне зусім дарма. Сусед-жа мой прадасьць сваіх 5 шклянак малака за 15 кап., а 5 кап. у яго усё-ж такі ўбытку.

Каровы мае вясною стаяць у хляве, а як пушчу на пашу, то пра ўсе перамены напішу.

Урэшце раю сялянам карміць кароў з кармушак і па норме, а таксама сеяць кораньплоды, аб якіх сваімі вопытамі падзялюся ў другі раз. Усяму гэтаму я навучыўся праз с.-г. часопісь „Плуг“, газэту „Магілеўскі Селянін“ і „Крестьянскую Газету“.

Селянін **Янка Судакоў.**

(Хут. Лебядзёўка, Кармянскі раён, Магілеўшчына).

---

# Умелае даеньне павялічвае ўдой малака.

(*Ліст практыка*).

Шмат якія з нашых сялян кажуць, што колькасьць і якасьць малака залежаць толькі ад кармленьня каровы. Часта здараецца чуць ад сялян, што больш малака можна атрымаць тады, калі ў гаспадарцы ёсьць шмат вотруб'я і макухі. На палову з гэтым можна згадзіцца, але апрача гэтага вялікае значэньне мае яшчэ і спосаб даеньня.

У нас у большасьці выпадкаў дояць каровы самым простым спосабам: зімою, напрыклад, каровы дояцца а 8-9 гадз. раніцы і а 3-4 га-

дзіне вечара. Такім чынам, паміж раньнім і вячэрнім даеньнем праходзіць 7-8 гадзін, а ўночы каровы ня дояцца 16-17 гадз., што вельмі дрэнна адбіваецца на малочнасьці каровы.

Доячы карову, гаспадыня рэдка альбо і ніколі не падвязвае чыстага фартука, ня мые рук, дайніцу толькі апаласквае халоднаю вадою, ніколі не памые вымя. Дояць двумя пальцамі і пры гэтым моцна адцягваюць сыскі ўніз. Ніколі ня робяць здайваньня першай часткі малака на зямлю, часта ня выдойваюць каровы. Некаторыя лічаць, што нявыдаенае малако можна выдаіць у другі раз і г. д.

Але гэта ня так. У першую частку малака, якая знаходзіцца ў канцы сысак, пападае гразь і розныя мікробы, у тым ліку і мікробы шкодныя для здароўя чалавека. Многа рабілася досьледаў малака ў працягу апошніх 10 год перад вайной і ўсе яны паказваюць, што *першая частка малака мае толькі 0,7 проц. жыру, трэцяя частка—1,0 проц., пятая—3,5 проц., дзесятая—4,2 проц., пятнаццатая—4,6 проц., а сямнаццатая—9,6 проц. жыру.* Значыцца, самая першая частка малака мае найменш жыру і самая танная, а апошнія—самыя дарагія.

„Даільшчыца павінна памятаць, што карова любіць ласкавыя адносіны; гэта палягчае работу і павялічвае ўдой“. Гэтыя правілы даеньня ў датчан вывешаны на сьцяне. Гэта правіла трэба ведаць і нашаму селяніну. Практыка замежных, асабліва дацкіх гаспадароў, паказала, што правільнае і ўмелае даеньне зьмяняе ня толькі якасьць, але і колькасьць малака.

Па гэтаму пытаньню ў спэцыяльнай літаратуры пачалі зьяўляцца асобныя артыкулы і паведамленьні з цікавымі данымі. Такія паведамленьні і даныя практыкі павінны быць цікавымі ня толькі для буйных гаспадарак, але і для сялян, якія маюць адну-дзьве каровы. Мне здаецца, што кожны селянін павінен сам паспрабаваць правільны спосаб даеньня.

Перад даеньнем карову трэба пагладзіць, абласкаць, а ня біць яе. Карова, калі яе біць, затрымоўвае частку малака, а часта і выбівае яго; абласканая-ж карова дае магчымасьць выдойваць малако да апошняе кроплі—гэта першае правіла.

*Другое правіла*—адзеньне, рукі, дайніцу і вымя трэба трымаць у чыстаце. Ня шмат часу патраціцца памыць і чыста выцерці перад абедам рукі; малако-ж таксама яда і не вялікая праца памыць рукі і перад даеньнем. Вельмі шкодна для каровы змачваць перад даеньнем сыскі малаком, а яшчэ горш сьлінаю. Перад даеньнем трэба добра вымыць рукі і насуха выцерці іх рушніком, абмыць цёплаю вадою вымя і таксама насуха выцерці, крыху разьмяць вымя і здаіць першыя кроплі малака з усіх сысак на зямлю. Ніколі ня можна даіць малако на-крыж, а перш выдаіць пярэднія сыскі і потым заднія.

Спосабаў даеньня ёсьць некалькі, але самы лепшы—гэта спосаб, які паказвае ссаньне цяляці; цяля, калі сьсе, дык каб лепш цякло малако, часам досыць моцна штурхае ў вымя. Па гэтаму спосабу абедзьве пярэднія сыскі абхватваюць вялікім і паказальным пальцамі і хутка падымаюць вымя ўверх; гэта робяць 2-3 разы, потым зноў выдойваюць да-чыста. Тое самае робяць і з заднімі сыскамі. Далей робяць масаж вымя і пасьля масажу зноў выдойваюць да чыста.

Даіць трэба ня цягнучы сыскі ўніз, а абхваціўшы пярэднія сыскі ў кулак, паступова націскаць, пачынаючы з паказальнага пальца і кан-

чаючы мязінцам (падобна да ссаньня цяляці). Даіць трэба энэргічна, але ні ў якім разе не адцягваць сысак уніз.

Пры гэткім даеньні колькасьць малака павялічваецца і яно робіцца жырнейшым.

У Даніі даўно ўжо ўжываецца спосаб даеньня кароў дацкага вэтэрынара Гегелунда; там нават ёсьць асобныя курсы для жадаючых навучыцца даіць па спосабу Гегелунда; кожны год там адбываюцца конкурсы даільшчыц кароў і лепшыя даільшчыцы прэміруюцца.

З усяго вышэйсказанага відаць, што, каб атрымаць больш і лепшай якасьці малака, неабходна мець на ўвазе наступнае: навучыцца правільна, умела даіць, зусім да-чыста выдойваць; даіць па магчымасьці кулаком; рабіць некалькі разоў падштурхваньне і масаж вымя, даіць тры разы ў дзень.

Толькі пры гэтых умовах павялічыцца карысьць ад удою кароў.

Ю. Лутц.

---

# Парады агранома на чэрвень-ліпень месяцы.

*1. Калі касіць канюшыну?* Канюшыну лепш касіць, калі яна пачынае красаваць. У гэты час яна дае самае спажыўнае сена (маладое, сочнае). Такая раньняя прыборка дазволіць ухіліцца ад дажджоў, якія часта бываюць пры познай касьбе. Пры раньнім пакосе пасьпее атрасьці і добрая атава.

*2. Гадоўля насеньня канюшыны.* Па вясьне гэтага году нашым сялянам вядома, як дарага і неабходна *насеньне канюшыны.* Былі выпадкі (Аршаншчына), што гаспадару было цяжка дастаць і 10 фун. насеньня канюшыны, а завесьці яе кожнаму ахвота. Каб далей такога голаду ня было, трэба як мага больш гадаваць свайго насеньня канюшыны.

У Меншчыне, Случчыне, Мазыршчыне, Бабруйшчыне і на поўдні Магілеўшчыны лепш гадаваць насеньне канюшыны з атавы (другога ўкосу). Тут дзесяціна можа даць 8-10 пуд. насеньня. Для поўначы гэтых раёнау лепш пакідаць вучасткі з першага ўкосу.

*3. Насеньне лубіну.* Раньнія пасевы лубіну, асабліва на вучастках з пескавой і супескавой глебай, трэба пакідаць на насеньне. Лепш гадаваць насеньне сіняга лубіну.

*4. Пасеў лубіну ў аржоньні.* Калі будзе прыбрана жыта ці раньні ячмень, то поле зараз-жа трэба няглыбока ўзараць і ў той-жа дзень пасеяць лубін на ўгнаеньне. Да восені ён дасьць 1000-1200 пуд. зялёнае масы і можа быць скарыстаны, як угнаеньне пад бульбу ў наступным годзе (гл. „Плуг“ № 5—1925 г.).

*5. Прарываньне і асыпаньне кармовых буракоў.* Вельмі цікава, каб не спазьніцца з прарываньнем буракоў і асыпаньнем іх. Пры апошнім прарываньні буракі пакідаюцца на 4-6 вяр. адзін ад другога, у залежнасьці ад пагнойнасьці поля.

---




## Гадуйце вярбу на дугі*).

**Вярба добра расьце ў сырым і пагнойным месцы. Праз 8-10 год на дзес. можа вырасьці 7 тыс. дручкоў, або 5000 дуг. на 1800 р.**

Радзіма вярбы на дугі—СССР. Робяць-жа дугі з вязу, ясеню і інш., але лепшыя дугі бываюць з вярбы. Ад добрае дугі вымагаецца крэпасьць і лёгкасьць. На дугі ўжываецца белая вярба (Salix alba). Вярбу можна пасадзіць усюды, але добры матарыял на дугі яна дае не заўсёды.

Найлепшым месцам для росту вярбы на дугі трэба лічыць прасторныя равы з ручайкамі ці крыніцамі. Тут найчасьц й бывае пухкая, урадлівая наносная глеба, зьмешаная з глеем. Вярба любіць, каб глеба была вільготнай нават у самую сухую пару лета. Такіх лажкоў, крынічнікаў і равоў у нас на Беларусі шмат. Трэба толькі пастарацца скарыстаць іх разумна. Пара ўжо паруплцца аб тым, каб кожны кавалак зямлі даваў карысьць нашаму гаспадару. Вось у такіх мясцох вярба прынясе падвойную карысьць: *дасьць удалую драўніну і замацуе карэньнем роў ад далейшага размыва вадой.*

Некаторыя разводзяць вярбу на нізінах, ці радкамі ўдоўж паміж сядзібамі, гародамі і г. д. Вярба дае мала цені і ня робіць падлесіцы. Пасаджаная каля сялібы вярба можа абараняць хату і будынак гаспадара ад пажару.

Садзіць вярбу трэба кольлем, увосень ці вясною. Напрыклад, калі садзіцца там, дзе позна вясной стаіць вада і можна спазьніцца, пакуль покаюцца пупышкі, то, вядомая рэч, што трэба садзіць увосень. Калы трэба загадзя загатаваць у 1 арш. даўжыні і да 2 вярш. таўшчыні. Садзіць трэба густа. Адлегласьць паміж радкамі каля 1 саж., а ў радкох 2 арш. Ніжнія канцы калоў перад самай пасадкай трэба наўкос роўненька зрэзаць вострай сякерай, асьцярагаючыся, каб не аблупіць кары, бо такія пасадкі горш прыжываюць.

Часта пасадку робяць так: завострываюць вярбовы кол і забіваюць яго ў зямлю. Гэты спосаб дрэнны. Кара пры гэтым зьдзіраецца і пасадка часта засыхае. Лепш не пашкадаваць працы і зрабіць добра.

Для кожнага кала капаюць ямку ад $^3/_4$ да 1 арш. глыбіні. Верхні пласт зямлі кладуць асобна ў адзін бок каля ямкі, а ніжні ў другі. Пасьля выкапкі скідаюць на дно ямкі верхні лепшы слой зямлі, ставяць на яго кол і засыпаюць зямлёй, узятай зьнізу. Такім чынам, кол

*) Гл. „Плуг“ № 5.

будзе прыжываць на добрай пульхнай глебе. Калі-ж такую пасадку ня можна зрабіць, дык робяць гэтак: прабіваюць у зямле яму добра завостраным дубовым калом (мяркуючы, каб убіць яго на патрэбную глыбіню), у прабітую калом ямку сыплюць трохі мяккай зямлі і тады ўжо ставяць вярбовы кол. Пасьля пасадкі кол знаходзіцца ў зямлі прыблізна на $^{1}/_{4}$ арш. Добра было-б канцы іх густа замазаць глінай з кароўім калам. Гэта абароніць пасадку ад высыханьня і загніваньня. Прыжыўшыя калы даюць шмат паросткаў. Выбіраюць 2—3 лепшых, дужэйшых паросткі на адным пні, а ўсе іншыя зрэзваюць. Пакінутыя паросткі вельмі хутка растуць і ў 8-10 год дасягаюць 4-х вярш. таўшчыні. Такім чынам, вярба на дугі гатова.

Цяпер пабачым, якую-ж карысьць мы будзем мець з дзесяціны такой вярбовай пасадкі. Расходы будуць: загатоўка кольля (на дзес. 3.600 шт.) няхай *будзе каштаваць 150 руб.*; сама *пасадка* з падрыхтоўкай ямак—50 руб. *Догляд* за ўвесь час, *агарожа* ад быдла ў першыя гады і г. д. 50 руб.

Усяго маем 250 руб. расходу.

За гэта можна будзе атрымаць ня менш, *як 5 тысяч дуг.* Усяго мы павінны дастаць, ня лічучы адпаду, каля 7 тысяч добрых дручкоў. Лічачы кожную дугу па 30—40 кап., маем каля 1800 руб. даходу, а *чыстага прыбытку 1550 руб.* з *дзесяціны ў 8-10 год.*

Праўда, трэба прылажыць тут шмат і працы, але, як бачым, яна можа добра акупіцца.

**М. Ш.**

# КРАЯЗНАЎСТВА

## Як будавацца, каб агню не баяцца*).

**З гліны ды саломы можна рабіць буйную цэглу (саман), а з такой цэглы паставіць хату ці інщую будоўлю, якая ня будзе баяцца пажару.**

У 1924 г. ў Беларусі штотыдзень было ад 30 да 60 пажараў. Бывала так, што вёска за кароткі час гарэла некалькі разоў. У вёсцы Турэц Сьмілавіцкага раёну было ўзапар адзін за другім шэсьць пажараў. Пажар нясе селяніну поўны разор: у агні гіне яго снасьць і нават дробная і буйная жывёла. Бывае так, што селяніну за свой век даводзіцца будавацца некалькі разоў. Дзеля гэтага трэба падумаць, ці ня можна будаваць свае будынкі так, каб найменш баяцца агню і холаду. Трэба паглядзець, як будуецца большая частка украінскіх, літоўскіх, польскіх і асабліва заходня-эўропэйскіх вёсак, каб сказаць, што нашаму селяніну выхад ёсьць.

Трэба ўмець будавацца так, каб не пакутваць ад пажараў і мець цёплую, сухую і здаровую хату.

Перш, вёска павінна будавацца так, каб агонь ня мог лёгка пераходзіць з аднаго будынку на другі. Зрабіць гэта вельмі лёгка, бо на гэта не патрэбен ніякі дадатковы расход. Каб менш баяцца пажараў, трэба прамежак паміж будынкамі засадзіць пладовымі альбо іншымі дрэвамі. Каб не маглі згарэць усе будынкі ў адным двары, трэба іх ставіць не адзін каля аднаго, а ня менш, як на 12-15 мэтраў (5-7 сажняў).

*Усе матар'ялы*, з якіх робяць будынак, можна замяніць сырцом, ці *паветрана-сухой цэглай*, якая інакш завецца *саманом*. Будынкі з саману танныя, бо матэр'ял для іх (*гліна і салома*) заўсёды ў селяніна пад рукой. Саман—гэта буйная цэгла разьмерам 44×22×11 см. альбо 36×18×9 см.

На саман трэба браць ліпкую гліну, бо толькі з яе бывае моцная цэгла. Ёсьць розныя спосабы дзеля таго, каб пазнаваць такую гліну. Спрактыкаваны чалавек пазнае яе вобмацкам; яна мяккая, падобная да сала або мыла. На выраб самана трэба выбраць найлепшую гліну.

Каб гліна, пачынаючы сохнуць, не давала шчылін, да яе падмешваюць салому, мох ці гной, але лепш за ўсё салому. Яе рэжуць даўжынёю да 15 сан. (3 вярш.). Каб даведацца, колькі саломы трэба да гліны, робяць спробу. Чым тлусьцейшая гліна, тым больш трэба дадаць да яе саломы. Аднак, калі да гліны будзе падмешана саломы многа, саман будзе ня моцны. Спробу лепш рабіць такім спосабам: зьмяшаць частку гліны перш з $^1/_4$ часткай саломы, пасьля з $^1/_{16}$ і г. д.

---

*) Зараз пасьля веснавых прац на полі, звычайна, нашы сяляне будуюцца. Вельмі цікава, каб новая будоўля была трывалай ад пажару. (**Рэд.**).

Калі саман высахне, глядзець у якой прапорцыі саломы саман ня дае шчэлін. Колькасьць вады, якая даліваецца ў гліну, бывае рознай і залежыць ад пагоды і гліны. Прыблізна на воз гліны вагою 240 кілёграм (15 пуд.) патрэбна вады каля $1^1/_2$-2 вёдраў.

*Каб падрыхтаваць саман,* раўнуюць пясок, зрэзваюць з яго дзёран і пасыпаюць пяском. На пляцыку раскладаюць гліну пластком у 15-20 сант. (3-4 вярш.), мнуць і паліваюць вадой. Далей гліна застаецца дні на 3-4 ляжаць, каб добра адмякла. Пасьля гэтага яе ўмінаюць добра нагамі, выкідваюць карэньні і камні і, калі яна пачне лёгка скідвацца з рыдлёўкі, перамешваюць з патрэбнай часткай саломы. Так падрыхтаваную масу кладуць у кучу і пакрываюць з верху саломай. Потым у драўляных формах вырабляюць саман. *Фармаваньне саману* робяць гэтак: бяруць форму, абмываюць яе вадою, далей у форму з сілай кідаюць глыбку масы і нагамі альбо рукамі топчуць яе; лішкі зьнімаюць бруском. Сфармаваны саман, каб ён высах, раскладаюць па таку. Яго лічаць сухім тады, калі ў месцы зломy ня бывае цёмнай плямы. Сухі саман укладаюць пад паветкай. Дзеля таго, каб хата з саману доўга стаяла, была цёплай і сухой, яе трэба будаваць на падмуроўцы. *Падмуроўку* трэба рабіць з моцнага матар'ялу (каменьняў, апаленай цэглы. Таўшчыня павінна быць больш за таўшчыню сьцен на сант. 15-18 (3-4 вярш.). Падмуроўку трэба класьці на цьвёрды грунт на глыбіню 80-120 сант. (2 арш.).

Трэба заўсёды памятаць, што саман баіцца вільгаці і дзеля гэтага ніжнюю частку сьцяны, як і падмуроўку з моцнага матар'ялу альбо з надворнага боку прыкрываюць прызбаю.

Сьценкі робяць у паўтары цэглы, гэта знача ў 57-66 сантым. (12-15 вярш.); кладуць іх, як і звычайныя муры з цэглы. Саманныя сьцены на многа асядаюць уніз, дзеля гэтага па-над ваконнымі і дзьвернымі рамкамі пакідаюцца шчыліны у 4-7 сант. ($1-1^1/_2$ вярш).

Сьценкі з саману трэба абавязкова пратынкаваць, бо яны ад дажджу робяцца вільготнымі і пасьля раскідаюцца. Тынкаваць трэба не раней, як праз год пасьля пабудовы, бо пры асяданьні тынкаваньне псуецца.

Дзеля таго, каб страха роўнамерна націскала на сьцены, паверх іх кладуць абвязку з брускоў, на якую і націскаюць кроквы. Каб захаваць вернюю частку сьцен ад дажджу, кроквы спускаюць з сьценак на сант. 50 (11 вярш.).

Саманную хату можна крыць чарапіцаю, а то гліняна-саломенаю страхою.

Дзеля гэтай страхі патрабуецца толькі гліна і салома. У якой-небудзь пасудзіне, прыкладам кадушцы, распушчаюць у вадзе гліну. Калі гэта мешаніна адстаіцца, то на дно ляжа пясок, пасьля гліна і на версе будзе вада. Ваду зьліваюць і зьбіраюць гліну. Робяць гэта да таго часу, пакуль ня будуць мець патрэбнай колькасьці гліны. Салому на страху трэба браць лепш усяго жытнюю і бяз каласоў. Сухой саломы на страху сярэдняй велічыні трэба ўзяць да 1600 кілёграм (100 пуд.). Крыюць страху так: недалёка ад таго будынку, які будуць крыць, капаюць адна каля другой дзьве ямы. Велічыня першай ямы залежыць ад велічыні страхі ( на сярэдні будынак патрэбна яма 2×2 мэтр.). Другая яма павінна мець разьмер 1,5×1,5×1 мэтр. Дзеля таго, каб з ямы зручна было працаваць, па краёх яе кладуць дошкі. У малой яме распушчаюць гліну і добра перамешваюць жэрдкаю. У большую кладуць на дно трохі сухой саломы, паліваюць кожны радок рас-

пушчанай у вадзе глінай і моцна ўціскаюць снапы нагамі. Такім спосабам, накладваюць яму да краёў, закрываюць сухой саломай і прыціскаюць з верху дошкамі або жэрдкамі. У гэтай яме снапкі застаюцца дні 2-3, пасьля гэтага іх вымаюць і складваюць на зямлі ў адно месца. Яшчэ праз дні 2-3, калі лішкі вады сьцякуць, салому можна ўжываць на пабудову страхі. Матар'ял на кроквы можна браць такі самы, як і на звычайную страху. Дзеля таго, што вільготная салома амаль што ў два разы цяжэй ад сухой, то на той час, пакуль страха ня высахне, трэба падперці з сярэдзіны кроквы. На кроквы прыбіваюць гладкія жэрдкі, адна ад другой на 13-16 см. (3-4 вярш.).

Салому на страху падаюць снапамі. Крыць страху пачынаюць зьнізу, каб першы радок саломы не спадаў, каб лёг роўна, на час працы зьнізу кроквах прыбіваюць дошку, на якую і апіраюцца камлі першага радка саломы. Снапкі разьвязваюць і шчытна ўкладваюць камлямі на жэрдкі.

Трэба ведаць, што гліна-саломенная страха, як-бы яна моцна ня была, патрабуе догляду. Так, праз некалькі год пасьля пабудовы, страха пачынае зарастаць травою. У гэтым выпадку граблямі трэба добра расчасаць салому, паліць распушчанай у вадзе глінай і яшчэ раз пачасаць і параўнаць рыдлёўкай.

---

# С.-Г. ХРОНІКА.

*Здабываньне свайго насеньня* (Калінішчына). З колектыўнымі гаспадаркамі зроблены ўмовы на гадоўлю свайго насеньня такіх расьлін:

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1. Аўса „Эхо" | 147 дзес. | 5. Лубіну | 4 дзес. |
| 2. Ячменю | 11 „ | 6. Лёну-даўгунца | 9 „ |
| 3. Канюшыны | 12 „ | 7. Аўса „Зал. дождж" | 15 „ |
| 4. Выкі | 16 „ | 8. „ шацілаўск. | 3 „ |

Купля гэтага насеньня будзе праводзіцца Акрсельсаюзам на коопэрацыйных умовах.

*Пасеўная кампанія ў Калінішчыне.* На 1 чэрвеня ў Калінішчыне па ўсей акрузе разышлося рознага насеньня і ўгнаеньняў.

| *Насеньня.* | | *Угнаеньня.* | |
|---|---|---|---|
| Канюшыны | 1150 пуд. | Супэрфосфату | 6100 пуд. |
| Цімафейкі | 160 „ | Тамасаўкі | 15500 „ |
| Выкі | 7500 „ | Фосфарытнай мукі | 5450 „ |
| Сэрадэлі | 400 „ | Калійнае солі | 540 „ |
| Лёну-даўгунца | 200 „ | Чылійскае салетры | — |

*У Наркамземе. Конкурс на лепшую гаспадарку.* Наркамземам абвешчаны з 20 травеня I Усебеларускі конкурс на лепшую гаспадарку і с.-г. гурток. Для лепшых гаспадарак вызначана ня менш 11 прэмій ад 200 да 50 руб. Для с.-г. гурткоў вызначана 10 прэмій ад 200 да 50 руб. Усе апісаньні будуць прымацца конкурснымі камісіямі пры АКРЗА да 1 жніўня г. г.

*Прывезена з Масквы 30 буйных ангельскіх сьвіней.* (9 шт. матак і 21 кнораз). Маткі будуць разьмеркаваны на 3 акругі (Менская, Віцебская і Магілеўская), а кноразы на 5 акруг.

*У Менскай акрузе прашлі выстаўкі* па гадоўлі конскага маладняку (ў Пухавіцкім і Койданаўскім раёнах). Гэтыя два раёны паказваюць даволі выразна палепшаную гадоўлю коняй.

*У Беларускай Дзяржаўнай с.-г. Акадэміі. Эканомічная экспэдыцыя.* З пачатку чэрвеня г. г. пачала працаваць экспэдыцыя па вывучэньню эканомічнага профілю БССР у напрамку Менск-Рослаў ($54^{0}5$—$54^{0}7$ шырыні). Экспэдыцыя мае на мэце вывучыць уплыў прыродных і эканомічных фактараў на складаньне сыстэм гаспадаркі. Экспэдыцыяй кіруе доцэнт Г. Гарэцкі пры ўдзеле супрацоўнікаў і студэнтаў Акадэміі (19 асоб). У тым-жа напрамку зробіць глебавае абсьледаваньне проф. Афанасьеў.

*Катэдрай садоўніцтва* камандыравана Ф. Старавойтава (агроном-садавод) да вядомага садавода-дасьледчыка І. У. Мічурына на працу ў выхавальніку на працягу 3-х летніх месяцаў.

Садавод Н. М. Коканаў камандыраваны ў гаспадарку Фатынь (Бачэйкаўскі раён) для працы па апылкаваньню і вывядзеньню новых сартоў у вядомага селяніна-дасьледчыка Я. К. Мароза.

*Шефская праца Акадэміі.* Шэфскай камісіяй у бліжэйшым раёне Акадэміі з'арганізавана 13 дзіцячых клюбаў (500 дзяцей-школьнікаў), якімі праведзены пасеў гародніны.

*Пры агрогуртку Акадэміі ёсьць с.-г. выстаўка-шалаш,* якая перасоўваецца ў падшэфныя вёскі. Астатні раз с.-г. выстаўка-шалаш была наладжана ў вёсцы Студзянец (Дрыбінскага раёну) 26 траўня, дзе ў гэты дзень бывае вялікі натоўп сялян з прычыны нейкага рэлігійнага сьвята. Выстаўка зрабіла добры ўплыў на сялян. Асабліва было цікава сялянам слухаць радыё з Масквы. Выстаўка закончылася с.-г. мітынгам. На жаль шэфскай камісіі не ўдаецца вырашыць пытаньне са сродкамі перавозу экспанатаў і пераезду.

---

**Выданьне Наркамзему.** Адк. рэд. **Зьм. Прышчэпаў.**

Рэд. кол. *Э. Русецкі, Шукевіч, А. Смоліч, Сьц. Тупяневіч.*

# ОФІЦЫЙНЫ АДДЗЕЛ

## Часовыя правілы аб умовак прымяненьня падсобнай наёмнай працы ў сялянскіх гаспадарках.

*(Пастанова Савета Народных Камісараў СССР ад 18-га IV 1925 году).*

Прымаючы пад увагу асаблівыя ўмовы працы ў сялянскай гаспадарцы ў яе цяперашнім становішчы, Савет Народных Камісараў Саюзу ССР пастанаўляе зацьвердзіць Часовыя Правілы аб умовах прымяненьня падсобнае наёмнае працы ў сялянскіх гаспадарках.

1. Гэтыя Часовыя Правілы распаўсюджваюцца на сялянскія гаспадаркі, у якіх наёмная праца зьяўляецца падсобнай.

*Увага:* Да гаспадарак прамысловага тыпу прымяняюцца пастановы аб умовах працы ў савецкіх гаспадарках.

2. Умовы найму батракоў і батрачак вырашаюцца дабравольнымі пісанымі згодамі, якія падпісваюцца нанімацелем і нанімаючымся. Пісаныя згоды ад імя батрака і батрачкі могуць заключацца і падпісвацца прафэсыянальным саюзам.

У згодзе павінна быць указана: а) грунтоўная праца, на якую наймаецца батрак ці батрачка; б) тэрмін найму; в) рабочы час; г) разьмер, віды і тэрміны выплаты заробку; д) дадатковыя ўмовы з абоіх бакоў.

Згода аб найме ня можа пагоршыць становішча батрака ці батрачкі мяркоўна з гэтымі правіламі; пагаршаючыя ўмовы не запраўдны.

3. Пісаныя згоды належаць да рэгістрацыі ў сельсаветах без узіманьня за гэта платы з нанімацеля і нанімаючагася і бяз права сельскіх саветаў уносіць зьмены ў прадстаўляемыя ім згоды. Рэгістрацыя праводзіцца не пазьней двух тыдняў з моманту найму.

*Увага:* Пісаныя згоды аб найме батрака ці батрачкі маюць моц з моманту іх падпісаньня старанамі.

4. Не дапускаецца заключэньне згоды аб найме, выкананьне якога павінна пачацца праз год ці болей пасьля заключэньня згоды, а таксама згоды на тэрмін больш аднаго году.

5. Да працы па найму ў сялянскіх гаспадарках дапускаюцца падросткі ня менш 14 год.

*Увага:* Для выпаўненьня лёгкай працы могуць дапускацца падросткі не маладзей 12 год.

6. Павялічаны рабочы дзень [больш 8 гадзін] дапускаецца па згодзе старон, у залежнасьці ад характару працы, у паасобныя сельска-гаспадарчыя пэрыоды.

7. Нанімацель павінен прадставіць батраку ці батрачцы адзін дзень у тыдзень [сьвяточны] для адпачынку.

Ва ўсе азначаныя законам сьвяты, батракі ці батрачкі павінны вызваляцца ад працы. Ва ўсе нерабочыя дні, а таксама ў рабочыя дні, у свабодны ад працы час, батрак ці батрачка маюць права адлучацца са двара і скарыстоўваць нерабочы час па свайму погляду.

*Увага:* У выпадках неабходнасьці ў страдную пару і для нанімацеля, і для батрака [батрачкі], можна працаваць у сьвяточны дзень, замяняючы батраку [батрачцы] яго другім днём адпачынку ці грашовай аплатай па асобай згодзе.

8 Узнагарода за працу батрака ці батрачкі ўстанаўляецца згодай, але ня можа быць ніжэй дзяржаўнага мінімуму заробнай платы для гэтага раёну. Тэрміны выплаты і спосаб аплаты (урочная, зьдзельная, грашыма ці натурай) устанаўляецца згодай.

9. Нанімацель павінен выпаўняць згоду, выплачваць у тэрмін заробак, прадстаўляць батраку ці батрачцы прыгоднае для жыльля памяшканьне і даваць ім харч такой якасьці, якая патрабляецца ў сям'і нанімацеля.

10. Нанімацель ня мае права прымушаць батрака ці батрачку атрымоўваць заработную плату натурай заместа ўмоўленай па згодзе грашовай.

11. Батрак ці батрачка абавязаны выпаўняць працу абмоўленую згодай, абходзіцца беражна з жывёлай і інвэнтаром і г. д. Уваходзячы ад нанімацеля, батрак ці батрачка павінны здаць маемасьць даверaную ім нанімацелем.

12. Забараняецца прымяняць працу падросткаў і цяжарных жанчын на непасільных для іх здароўя працах.

13. Сялянская гаспадарка, якая карыстаецца наёмнай працай на працягу цэлага сельска-гаспадарчага году, павінна ў выпадках хваробы батрака ці батрачкі, а таксама ў выпадках родаў апошняй, калі батрак ці батрачка прапрацавалі ў гэтай гаспадарцы ня менш месяцу, выплачваць ім умоўленую ў згодзе плату і прадстаўляць жыльлё і харчы на працягу аднаго месяцу з моманту спыненьня работы па хваробе ці родам.

Сялянская гаспадарка, карыстаючаяся наёмнай працай толькі ў некаторыя пэрыоды сельска-гаспадарчых работ, павінна выплачваць умоўленую ў згодзе плату і прадстаўляць жыльлё і харчы на працягу двух тыдняў з моманту спыненьня работы па хваробе ці родам, калі батрак ці батрачка працавалі ў гэтай гаспадарцы ня менш двух тыдняў.

Лекарскія органы і ўстановы абавязаны аказваць дарэмна батракам і батрачкам дапамогу ў час хваробы і родаў.

14. Сялянскія гаспадаркі, якія карыстаюцца наёмнай працай ня менш 3-х батракоў ці батрачак на працягу цэлага сельска-гаспадарчага году, абавязаны страхаваць апошніх у парадку социяльнага страхаваньня па асобым правілам соцыяльнага страхаваньня.

15. Калі нанімацель уносіць за батрака ці батрачку ўзносы, то выплата заробку за час хваробы ці родаў выпаўняецца не нанімацелем, а страховай касай.

16. У выпадках калецтва, а то і сьмерці ад калецтва, застрахаванага батрака ці батрачкі на працы ў нанімацеля, узнагарода выплачваецца страхавой касай, на агульных падставах.

Калі батрак ці батрачка ня былі застрахованы, то ўзнагарода батраку ці батрачцы і іх сем'ям у сувязі з калецтвам ці сьмерцьцю выплачваецца нанімацелем згодна заканадаўства Саюзных Рэспублік.

17. Нанімацель можа звольніць батрака ці батрачку да сканчэньня тэрміну згоды, але абавязан аб гэтым паведаміць батрака ці батрачку за два тыдні. Калі нанімацель звальняе батрака ці батрачку без ранейшага паведамленьня, то ён павінен заплаціць ім іх заробак—плату за два тыдні наперад (выхадная дапамога). Батрак ці батрачка пры адыходзе ад нанімацеля абавязаны паведаміць апошняга аб сваім адходзе, за адзін тыдзень уперад.

18. Для разгледжаньня спрэчак паміж батраком ці батрачкай і нанімацелем, у сувязі са звальненьнем батрака ці батрачкі, ці ўходам апошніх з работы, а таксама ўсякіх іншых спрэчак у сувязі з работай і згодай па найму,—могуць быць утвораны прымірыцельныя камісіі пры валасных (раённых) выканаўчых камітэтах; усе пытаньні ў гэтых камісіях разьвязваюцца выключна шляхам згоды старон.

У выпадках нязгоды аднэй з старон справы перадаюцца на разгляджэньне прымірыцельнай Камісіі, ці ў выпадках недасягненьня згоды спрэчка разьвязваецца народным судом.

19. Гэтыя правілы павінны быць вывешаны ва ўсіх валасных (раённых) выканаўчых Камітэтах і сельскіх саветах.

20. Нагляд за выкананьнем гэтых правіл ускладаецца на Інспэкцыю працы.

21. Адпаведнасьць за нарушэньне гэтых правіл вызначаецца ў парадку заканадаўства саюзных рэспублік.

22. Інструкцыі па прымяненьню гэтых правілаў выдаюцца Саветамі Народных Камісараў Саюзных Рэспублік.

Старшыня Савету Народных Камісараў Саюзу ССР **А. Рыкаў.**
Нам. Кіраўніка Справамі Савету Народных Камісараў СССР **І. Мірошнікаў.**

---

# Пастанова Савету Народных Камісараў Беларускай Савецкай Соцыялістычнай Рэспублікі аб зацьверджаньні інструкцыі да часовых правіл аб умовах прымяненьня падсобнай наёмнай працы ў сялянскіх гаспадарках.

*(12 жніўня 1925 г.)*

На грунце артыкулу 22-га, зацьверджаных 18-га красавіка 1925 году Саветам Народных Камісараў Саюзу ССР „Часовых правіл аб умовах прымяненьня падсобнай наёмнай працы ў сялянскіх гаспадарках", (С. З. РССР 1925 году № 26 арт. 183), Савет Народных Камісараў БССР пастанаўляе: „Зацьведзіць гэтакую інструкцыю аб парадку прымяненьня паказаных вышэй часовых правілаў":

1. Часовыя правілы распаўсюджваюцца на ўсе працоўныя сялянскія гаспадаркі, у якіх наёмнай працай карыстаюцца ў якасьці падсобнай працы.

*Увага.* На гаспадаркі, якія праводзяць аснаўное паляпшэньне глебы, як мэліорацыя, дрэнажыраваньне і г. д., часовыя правілы распаўсюджваюцца, калі лік пастаянных рабочых будзе ня больш трох чалавек.

2. Умовы найму батракоў ці батрачак вызначаюцца па ўзаемнай згодзе нанімацеля з нанімаючымся.

Пры найме батрака ці батрачкі нанімацель павінен заключыць з імі ці з прафэсыянальным саюзам, ад іх імя, пісаную згоду аб найме.

Умова працоўнага ўгавору ня можа пагаршаць становішча нанімаючагася, ў параўнаньні з часовымі правіламі і гэтай інструкцыяй.

*Увага*. Калі пры найме батрака ці батрачкі на работу, выкананьне якой цягнецца ня больш аднаго тыдню адначасова, ці ня больш 3-х тыдняў на працягу году, заключэньне пісанай згоды не абавязкова; але ўмовы найму ня могуць пагаршаць становішча батрака ці батрачкі ў параўнаньні з часовымі правіламі і гэтай інструкцыяй.

3. Падросткі ад 14 год пры заключэньні працоўнай умовы прыраўніваюцца да дарослых. За падросткаў ад 12 да 14 год працоўная ўмова заключаецца з іх згоды бацькамі ці апякунамі.

Ва ўсіх гэтых выпадках бацькі ці апякуны, а таксама прафэсыянальны саюз і інспэктары працы маюць права трэбаваць дасрочнага скасаваньня працоўнай умовы, калі працяг такой паграджае здароўю падростка ці наогул нясходны для яго.

4. Працоўны ўгавор павінен быць падпісан старанамі і прадстаўлен нанімацелем для рэгістрацыі ў сельсавет не пазьней двух тыдняў з моманту заключэньня.

У працоўным дагаворы подпісі за няпісьменнага ці ўмоўныя значкі няпісьменнага батрака ці нанімацеля павінны быць засьведчаны сельсаветам без узіманьня за тое платы.

5. Працоўныя дагаворы складаюцца і падпісваюцца старанамі ў 3-х экз., з якіх адзін застаецца ў сельсавеце, а астатнія два пасьля рэгістрацыі выдаюцца на рукі нанімацелю і батраку.

6. Пры няпісьменнасьці аднэй ці абедзьвюх старон працоўны ўгавор да рэгістрацыі павінен быць прачытан у голас прадстаўніком сельсавету.

7. За рэгістрацыю згоды і за пасьведчаньне подпісаў сельскія саветы ня маюць права ўзімаць плату. Сельскія саветы таксама ня маюць права ўносіць у згоду якую небудзь зьмену.

8. Інспэктар працы мае права трэбаваць зьмяненьня ці скасаваньня працоўных угавораў, пагоршаючых становішча батракоў, ці батрачак у параўнаньні з часовымі правіламі і гэтай інструкцыяй.

Перагляд ці скасаваньне працоўнага ўгавору можа быць таксама прад'яўлены прафэсыянальным саюзам праз адпаведныя ўстановы (інспэктара працы, працоўную сэсію, народны суд).

9. Па дабравольнай згодзе прафэсыянальн. саюзу нанімацелем можа быць абгаворана абавязальнасьць нанімацеля ўносіць на працу прафэсыянальнага саюзу вырашаную суму, якая не павінна правышаць двух процантаў умоўленай па ўгавору платы батрака ці батрачкі.

10. У працоўным угаворы павінна быць ясна ўстаноўлен тэрмін найму батрака, таксама тыя грунтоўныя работы, для выкананьня якіх наняты батрак (пасеў, уборка ўраджаю, малацьба і г. д.).

11. Нанімацель абавязан выплачваць заробак батраку ці батрачцы ў азначаны працоўны дагаворам тэрмін. Пры звальненьні батрака ці батрачкі нанімацель абавязан выплаціць звольняемаму заробак па дзень фактычнага разьліку з ім.

12. У працоўным угаворы можа быць устаноўлена па згодзе паміж старанамі абавязальнасьць нанімацеля заплаціць батраку ці батрачцы ўбыткі ў сувязі з адказам нанімацеля даць наняўшамуся работу пасьля ўгавору аб найме.

13. Па працоўн. ўгавору могуць быць устаноўлены пені з нанімацеля за несваечасовую выплату платы.

14. Заработак батрака ці батрачкі (грашовы і натуральны) не павінен быць ніжэй устаноўленага Народным Камісарыятам працы СССР для гэтага раёну Дзяржаўнага мінімуму, пры гэтым кошт харчоў ці жыльля азначаецца ў разьмеры ня больш 50 проц. дзяржаўнага мінімуму

15. Працоўныя ўгаворы (згоды) могуць заключацца на тэрмін ня больш аднаго году. Заключэньне працоўных угавораў, выкананьне якіх пачынаецца ня ў бягучым годзе, ці наступным сельска-гаспадарчым сэзоне,—не дапускаецца.

16. Працяг рабочага дня для батрака ці батрачкі ўстанаўляецца па згодзе для кожнага часу года паасобна і ў залежнасьці ад натужнасьці працы пасэзонна, прычым запіс працягу рабочага дню ў працоўным угаворы павінен паказвацца для кожнага сельска-гаспадарчага сэзону.

17. У лік сьвяточных і нерабочых дзён, у якія батрак ці батрачка вызваляюцца ад працы, уваходзяць: аднадзённы адпачынак раз у тыдзень, рэвалюцыйныя сьвяты 1 і 22 студзеня, 12 і 18 сакавіка, 1 мая і 7-га лістападу, а таксама другія сьвяты, якія ўстаноўлены Народным Камісарыятам Працы БССР.